# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**№ 34** (2332) 26 жніўня 1993 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 10 рублёў.


## ПА ЗАКОНАХ РЫНКУ



**З 14 жніўня Расія рэзка скараціла пастаўкі прыроднага газу ў Рэспубліку Беларусь. З 31 мільёна кубаметраў у суткі яго паступае цяпер толькі па 12 мільёнаў. Гэта прывяло да крытычнай сітуацыі. Спыніліся ці часткова прыпынілі работу многія прадпрыемствы. Сярод іх Мінскі трактарны, БелАЗ, вытворчыя аб'яднанні "Інтэграл", "Гарызонт", замерлі краны на будаўнічых пляцоўках. Газ падаецца ў патрэбнай колькасці толькі ў жылыя дамы, бальніцы, на хлебазаводы, ЦЭЦ, прадпрыемствы з бесперапынным цыклам вытворчасці.**

**Прычына рэзкага зніжэння паставак не ў скарачэнні здабычы газу ў Расіі ці яго недахопу, а ў нашай неплацежаздольнасці. Наш доўг па разліках за газ дасягнуў 110 мільярдаў рублёў. Некалькі дзён назад 10 мільярдаў "знайшлі", астатнія "вісяць". Рэспубліка плаціць па 15 600 рублёў за тысячу кубаметраў газу (сусветная цана — 80 долараў). Калі ўлічыць вышэйпрыведзеныя патрэбнасці (31 мільён кубоў у суткі), нам у выніку трэба выкладваць за кожныя двое сутак амаль па мільярду рублёў. Такім чынам, мы залезлі ў доўг на 200 дзён наперад.**

**Прычым, як падкрэслілі ў "Белтрансгазе", ён аказаўся ў гэтай сітуацыі крайнім. Па-першае, ён не можа разлічыцца з расіянамі своечасова з-за таго, што не плацяць яму, і ў першую чаргу энергетыкі (ім, дарэчы, не плацяць ужо іншыя). А па-другое, і гэта самае галоўнае, разлікі з Расіяй вядуцца ў расійскіх рублях, а нашы прадпрыемствы плацяць "Белтрансгазу" "зайчыкамі" ў суадносінах 1:1, прыраўноўваючы адзін беларускі рубель да аднаго расійскага. У той жа час курс беларускіх грошай да расійскіх складае цяпер 2,52:1. Такім чынам, на кожны расійскі рубель (на цяперашні момант) прадпрыемствы недаплачваюць пры разліках за газ па 1,52 беларускага рубля. У выніку ў "Белтрансгаза" і набраўся такі вялікі доўг.**

**Цяпер, як вядома, у рэспубліцы напружанае становішча і з нафтапрадуктамі. І зноў жа знаёмая сітуацыя: завінаваціліся за нафту — 110 мільёнаў долараў. Праўда, гэта яшчэ няблага: было нават 350.**

**Што цяпер! Пакуль паміж Расіяй і Рэспублікай Беларусь ідуць перамовы на самым высокім урадавым узроўні, шукаецца выйсце з гэтага складанага становішча. Ясна толькі адно: ніхто нічога не будзе даваць нам проста так. За ўсё трэба плаціць. Гэта значыць, жыць па законах рынку.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*АДРАДЖАЮЧЫ МУЗЫЧНЫ РАДАВОД...*

## ПРАГРЭС — У ВЯРТАННІ НАЗАД

**Толькі год існуе творчае аб'яднанне «Беларуская Капэла», але на яго рахунку арганізацыя ўжо некалькіх міжнародных музычных фестываляў. Дый не адно гэта...**

Утварылася «Беларуская Капэла» дзякуючы ініцыятыве знанага спевака, заслужанага артыста і лаўрэата Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Віктара Скорабагатава, які і стаў мастацкім кіраўніком новага аб'яднання. Калі ж гаварыць пра вытокі гэтай ініцыятывы, дык трэба згадаць, як апантана цікавіўся спявак «непрэстыжнай» беларускай музыкай, з якім энтузіязмам яе выконваў, імкнучыся надаць ёй вагу ў канцэртным жыцці. Вось і з'явіўся цыкл камерных канцэртаў «Анталогія беларускага рамансa», якому спадарожнічала і пошукавая праца, і нават арганізатарская.

Віктар Скорабагатаў расказвае: «Аднойчы мяне запрасілі агучыць для тэлефільма некалькі нумароў з »Полацкага сшытка". І я падумаў: гэта ж сярэдзіна XVI стагоддзя, а камерны жанр у еўрапейскай музыцы ўзнік менавіта ў сярэдзіне XVI стагоддзя! І калі ў культуры тагачаснай Беларусі ішоў паралельны працэс, значыць, логіка падказвала, нешта мела быць і пасля. Пачаў шукаць, распытваць. Звярнуўся да Вольгі Дадзіёмавай, даследчыцы, захопленай вывучэннем архіўных матэрыялаў XVIII стагоддзя, і дзякуючы ёй атрымаў рамансы Агінскага... Узнікла натуральнае пытанне: а што — апроч рамансаў нічога не было? Пачытаў працы Гурыя Барышава: было! І тэатры былі, і балеты былі, і оперы ставіліся. Існавала харавая, ансамблевая, сімфанічная культура. Калі ж у руках сабралася сёе-тое з нот, узнікла ідэя гэту музыку адрадзіць".

Вядома, такая хада музычных падзей была недаспадобы носьбітам афіцыйнай мастацтвазнаўчай дактрыны. Бо доўгі час беларускай музыцы адводзілі ролю выключна спадарожніцы сялянскага побыту, быццам бы і не было сярод нашага люду асветнікаў ды мецэнатаў, быццам і не жылі на землях нашых захавальнікі еўрапейскіх традыцый прафесійнага мастацтва, быццам бы і прафесійнае музычнае мастацтва на Беларусі з'явілася толькі дзякуючы савецкай уладзе... Словам, на фоне такой «гістарычнай дасведчанасці» нават для адукаваных музыкантаў сенсацыйным падаваўся сам факт існавання два стагоддзі таму на землях нашых 26 оперна-балетных тэатраў ды каля 30 сімфанічных капэл.

«Адраджэнне беларускай капэлы» — такую шматабяцаючую і ёмістую назву атрымаў першы фестываль нашай музычнай старасветчыны, праведзены восенню 1991 года. Ініцыятыву В.Скорабагатава па яго правядзенні падтрымалі Саюз музычных дзеячаў Беларусі, Беларуская дзяржаўная філармонія...

І, зразумела, нічога б не адбылося, калі б не іншыя энтузіясты-адраджэнцы: музыканты, літаратары, даследчыкі. У канцэртах Першага фестывалю гучала музыка, вернутая на Беларусь дзякуючы Адаму Мальдзісу, В.Дадзіёмавай, Н.Іўчанцы, Т.Ліхач. У якасці перакладчыкаў на беларускую папрацавалі У.Мархель ды С.Клімковіч. Некаторыя помнікі музычнай даўніны набылі свежае гучанне дзякуючы рэдакцыі кампазітараў В.Капыцькі, Д.Смольскага ды А.Літвіноўскага. Інтэрпрэтатарамі, а то і рэдактарамі старых нотных тэкстаў рабіліся выканаўцы-адраджэнцы: арганіст К.Шараў, гітарыст В.Жывалеўскі, піяніст І.Алоўнікаў, Мінскі дзяржаўны камерны хор пад кіраўніцтвам І.Мацюхова, ансамблі «Кантабіле» ды «Класік-Авангард» (мастацкі кіраўнік У.Байдаў), дуэт Л.Гарэлік (скрыпка) ды Ю.Гільдзюк (фартэпіяна) і, канечне, В.Скорабагатаў з канцэртмайстрам Г.Каржанеўскай...

Наша музычная даўніна была прадстаўлена ў шасці паўнацэнных канцэртных праграмах: тут і паланезы М.Радзівіла, і фрагменты оперы Я.Д.Голанда «Агатка», і — цалкам — аперэтка Р.Вардоцкага «Апалон-заканадаўца, або Парнас рэфармаваны», і помнік пабытавай музычна-паэтычнай культуры «Куранты», і гімны беларускай царквы, і творы для лютні...

Высокі мастацкі ўзровень, гістарычная значнасць фестывалю, сур'ёзная ды перспектыўная праца ўсіх, хто тым або іншым чынам быў звязаны з яго падрыхтоўкай, правядзеннем, — усё гэта паспрыяла здзяйсненню, здавалася б, неверагодных мар В.Скорабагатава. Пленум праўлення Саюза музычных дзеячаў, які прайшоў тады «пад дахам» фестывалю, прыняў рашэнне наконт арганізацыі творчага аб'яднання «Беларуская Капэла» і штогадовага правядзення яго «фірменных» фестываляў. А праз нейкі час «Беларуская Капэла» на чале з В.Скорабагатавым (мастацкі кіраўнік) ды Я.Паплаўскім (кампазітар, дырэктар аб'яднання) была створана загадам міністра культуры.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

**Цяпер гэты памятны знак можна лічыць гістарычным. Не сёння-заўтра яго проста знясуць. І нічога больш не будзе нагадваць нам, што пад самым Мінскам збіраліся пабудаваць першую ў Беларусі атамную электрастанцыю, на распрацоўку праекта якой і жылога пасёлка Дружны былі затрачаны вялікія сродкі. Аварыя на Чарнобыльскай АЭС назаўжды выкрасліла з ліку вялікіх будоўляў станцыю пад Мінскам. Але замест планаемай тут цяпер узводзіцца іншая, больш «мірная». (Аб гэтым наш расказ на 3-й стар.).**



## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ЗВАРОТ

### НЕ ПАКІНУЦЬ У БЯДЗЕ

**Выканаўчы камітэт Цэнтральнай Рады БСДГ звярнуўся да сяброў і прыхільнікаў Грамады, да ўсіх палітычных і грамадскіх арганізацый, да грамадзян Беларусі і нашых суайчыннікаў за межамі краіны з заклікам аказаць дапамогу жыхарам пацярпеўшых ад стыхіі паўднёвых раёнаў рэспублікі.**

**Вынікі гэтай стыхіі, як ужо паведамлялася ў "Голасе Радзімы", уражваюць: затоплена больш тысячы жылых дамоў, знішчана дзесяткі тысяч гектараў сельгасугоддзяў, павялічылася радыяцыйнае забруджанне, існуе небяспека ўзнікнення эпідэмій, больш за 50 тысяч чалавек пастаўлена на мяжу выжывання.**

**З свайго боку, камітэт Цэнтральнай Рады БСДГ прыняў рашэнне пералічыць 50 тысяч рублёў на ліквідацыю вынікаў стыхійнага бедства.**

*"Станіслаў Шушкевіч — першы прадстаўнік з краін СНД, якога амерыканскі прэзідэнт асабіста запрасіў у сваю краіну. Гэтаму паслужыў цэлы комплекс прычын. І ў першую чаргу — узважаная і канструктыўная знешняя палітыка Беларусі, асабліва ў пытаннях ядзернай бяспекі. Акт перадачы Шушкевічам Клінтану Граматы аб далучэнні Беларусі да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі знайшоў вельмі шырокі водгук не толькі ў Амерыцы, але і ва ўсім свеце. Акрамя таго, Беларусь карыстаецца ў амерыканскай адміністрацыі заслужаным аўтарытэтам, як дзяржава палітычнай стабільнасці, якая, увогуле, адзіная пазбегла грамадскіх і іншых катаклізмаў пасля развалу Саюза. Беларусь умее цаніць добрасуседскія адносіны, не прад'яўляе тэрытарыяльных прэтэнзій і гэтак далей, і гэтак далей. Гэта вельмі важны аспект, які і зрабіў уплыў на добрыя адносіны ЗША, ды і іншых краін да нашай рэспублікі".*

*Сяргей МАРТЫНАЎ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у ЗША.*

АДУКАЦЫЯ

### СТУДЭНТАЎ СТАЛА МЕНШ

**Сёлета ў вышэйшых навучальных установах рэспублікі будзе навучацца на 3 тысячы студэнтаў менш, чым летась. Калі ў 1992 годзе ў ВНУ займаліся 35 тысяч студэнтаў, дык у 1993 навучальным годзе — 32 тысячы.**

**Гэта тлумачыцца перш за ўсё перавытворчасцю кадраў, асабліва тэхнічных. Напрыклад, у мінулым годзе да 70 працэнтаў маладых спецыялістаў — выпускнікоў Політэхнічнай акадэміі — не маглі знайсці работу. Раней іх размяркоўвалі па ўсяму Саюзу, цяпер жа — толькі па Беларусі. А нашай рэспубліцы такая колькасць тэхнічных кадраў на даным этапе не патрэбна. А гуманітарных — недахоп. І ў першую чаргу, настаўнікаў.**

**Ваенныя вучылішчы Міністэрства абароны сёлета, наадварот, павялічваюць набор курсантаў. У гэтым навучальным годзе ў Мінскае вышэйшае ваеннае каманднае вучылішча прынята на 200 чалавек больш, чым у мінулым. Павялічыцца колькасць курсантаў і ў Мінскім вышэйшым інжынерным вучылішчы. Цяпер значная большасць жадаючых стаць афіцэрамі будзе вучыцца дома, у Беларусі.**

ПА МІЖНАРОДНЫХ ПАГАДНЕННЯХ

### НАШЫ ШКОЛЫ АДЧЫНЕНЫ І ДЛЯ ІНШАЗЕМЦАЎ

**Урадам прынята палажэнне аб навучанні ў рэспубліцы замежных грамадзян. У дакуменце сказана, што прымацца яны будуць незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, полу, мовы і адносін да рэлігіі.**

**З гэтага часу іншаземцы могуць атрымліваць адукацыю ў школах, прафтэхвучылішчах, сярэдніх спецыяльных навучальных установах, ВНУ, аспірантурах і ардынатурах, а таксама шляхам стажыроўкі ў ВНУ, НДІ і на курсах павышэння кваліфікацыі. Іх прыём можа ажыццяўляцца па міжнародных пагадненнях рэспублікі, а таксама па дагаворах, заключаных навучальнымі ўстановамі з пасрэднікамі — замежнымі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі па ўзгадненню з Міністэрствам адукацыі Беларусі.**

КРЫЗІСНАЯ СІТУАЦЫЯ

### НЕ ХАПАЕ ПІТНОЙ ВАДЫ

**У раёнах беларускага Палесся, што пацярпелі ад паводкі, узнік крызіс з пітной вадой.**

**Справа ў тым, што ў калодзежах затопленых населеных пунктаў вада стала зусім непрыгоднай да ўжывання. У выніку паводкі яна змяшалася з розным брудам, угнаеннямі, гербіцыдамі, падверглася заражэнню радыенуклідамі. Для ліквідацыі гэтай сітуацыі выдзелены значныя сродкі, атрыманыя галоўным чынам з-за мяжы. Першая партыя водаачышчальных фільтраў паступіла ўжо ў пацярпеўшыя ад паводкі раёны па лініі Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжа.**

ПЕРАВОЗКІ СКАРАЧАЮЦЦА



**На дзве трэція скараціліся ў апошні час перавозкі па Днепра-Бугскаму рачному шляху. Яшчэ не так даўно Брэсцкі порт перапрацоўваў у год да сямі мільёнаў тон грузаў. Зараз падвозяць толькі будаўнічыя матэрыялы. Асноўны груз — руду з Крывога Рога — новая Германія купляць адмовілася. Але яна ж прапанавала праект аднаўлення ўсяго шляху, з выйсцем праз Буг у Балтыйскае мора.**

**Калі гэтае пытанне вырашыцца, быць Брэсту буйным партовым горадам!**

**НА ЗДЫМКУ: баржа з грузам з Мікашэвічаў на падыходзе да Кобрынскага шлюза.**

З КРЫМІНАЛЬНАЙ ХРОНІКІ

### СМЯРОТНАЯ СЫРАВІНА

**Макавая плантацыя на сарака сотках выяўлена на забруджаных радыенуклідамі палях былога калгаса "Рэвалюцыя" Слаўгарадскага раёна. Узровень радыяцыі тут даходзіць да сарака кюры на квадратны кіламетр. Жыхары адселены ў чыстую зону, а ўсялякая сельскагаспадарчая вытворчасць спынена. І ўсё ж хтосьці спрабуе нажыцца на гэтай мёртвай зямлі. Хто менавіта, органы праваправапарадку пакуль што не высветлілі. Смяротную сыравіну, якая "свеціцца" ад радыяцыі, скасілі і спалілі.**

**Спакойнае да гэтага часу ў сэнсе наркотыкаў Магілёўская вобласць становіцца, здаецца, іх вытворцам. У гэтым годзе работнікі міліцыі ўжо канфіскавалі больш як трыццаць кілаграмаў наркатычных рэчываў.**

ЖНІВО-93



**Неспрыяльныя кліматычныя ўмовы, стыхія, паліўны голад — усё гэта не магло не адбіцца і на ўраджайнасці нашых палёў, і на тэмпах уборкі, якая ў гэтыя дні ідзе ва ўсіх рэгіёнах нашай рэспублікі. Жніво пачалося са значным адставаннем.**

**І тым не менш ёсць гаспадаркі, дзе ўраджайнасць высокая. Тут лідзіруе Гродзенская вобласць: на круг збіраюць па 34,9 цэнтнера. Блізкія да "нормы" і іншыя вобласці. Так што без хлеба мы не застанемся.**

**НА ЗДЫМКУ: уборка азімага жыта ў калгасе "Перамога" Камянецкага раёна.**

ЗДАРЭННЕ

### ВЫБУХ НА ПЛОШЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**12 жніўня вечарам на плошчы Незалежнасці ў Мінску прагучаў выбух. На шчасце, ніхто не пацярпеў і ніякіх разбурэнняў няма. Толькі ад выбуховай хвалі павылятала шкло ў будынку станцыі метро.**

**На месцы выбуху ўтварылася яміна глыбінёй каля 40 сантыметраў і радыусам каля 80 сантыметраў.**

**Адпаведныя службы вядуць расследаванне. Як заявіў прадстаўнік прэс-службы МУС Беларусі, 18 жніўня былі два званкі з тэлефона-аўтамата. Аўтар іх назваўся Мжыславам Мажайскім з партыі справядлівасці, цэнтр якой знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургу. Партыя ставіць сваёй мэтай адраджэнне былога СССР. І падобныя акцыі будуць працягвацца і далей.**

МІЛАСЭРНАСЦЬ

### І МАЙСТЭРСТВА, І ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ

**У тэль-авіўскім лячэбным цэнтры "Эліас Саўраскі" паспяхова завяршыўся першы этап лячэння беларускай дзяўчынкі Олі Сукач, якая атрымала ў мінулым годзе ў аўтакатастрофе пад Салігорскам найскладанейшыя траўмы.**

**Двухмесячнае лячэнне, дзякуючы вядомым ва ўсім свеце сваім майстэрствам ізраільскім артапедам, дазволіла аднавіць функцыі нагі дзіцяці, якому раней пагражала ампутацыя. Неўзабаве ў гэтай жа бальніцы (адзін дзень знаходжання тут абыходзіцца ў 500 долараў), Олю Сукач чакае паўторны курс рэабілітацыі. Родныя шчыра дзякуюць прадстаўніцтву Ізраіля ў Беларусі, кіраўніцтву карпарацыі "Айзенберг" і супрацоўнікам МЗС Беларусі за дапамогу.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ВЫСОКУЮ ацэнку дала мясцовая французская прэса выступленню на міжнародным маладзёжным фестывалі камернага хору Гомельскай музычнай школы імя П. Чайкоўскага. Пад купалам галоўнага кафедральнага сабора горада Клермон-Феран у выкананні гамяльчан гучалі творы беларускіх і замежных кампазітараў.

ЗБОРНІК беларускіх народных загадак, скорагаворак, песенек, прымавак выйшаў у кіеўскім выдавецтве дзіцячай літаратуры "Вэсэлка". Называецца ён "Вышаў коцік на таржок". Такая кніга з'явілася ўпершыню ў перакладзе з беларускай мовы на ўкраінскую. Тыраж зборніка каля 160 тысяч экземпляраў.

КАБ АТРЫМАЦЬ 1 мільён тон збожжа, Беларусь камандзіруе на цаліныя землі Казахстана 2 тысячы сваіх камбайнераў і столькі ж адзінак грузавога транспарту для ўборкі ўраджаю.

НОВАЯ база аздараўлення для чарнобыльцаў адкрылася ў чыстай зоне Брэсцкай вобласці на месцы былога піянерскага лагера "Колас".

ПРЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ кніжнай палаце Беларусі пачало дзейнічаць нацыянальнае агенцтва па міжнароднай стандартнай нумерацыі кніг. Гэта значыць, што Беларусь цяпер мае свой класіфікацыйны нумар — 985, які прыйшоў на змену старому, што праставіўся на ўсіх беларускіх кнігах у гады існавання СССР.

З МНОГІХ краін свету з'ехаліся ў Глыбокае, што на Віцебшчыне, уцалеўшыя вязні і сваякі загінуўшых у гета ў гады вайны грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці. У дзень 50-годдзя трагедыі тут адбыўся жалобны мітынг і быў адкрыты манумент.

## ЗА СОРАК КІЛАМЕТРАЎ АД МІНСКА



# СПАЧАТКУ БУДАВАЛАСЯ АТАМНАЯ

У пачатку васьмідзесятых усе цэнтральныя газеты змясцілі паведамленні аб узвядзенні пад Мінскам атамнай электрастанцыі. Як гэта звычайна было прынята ў былым Саюзе, будоўлю аб'явілі «ўдарнай камсамольскай», хаця пад Мінск з'ехаліся вопытныя спецыялісты не толькі камсамольскага ўзросту з Украіны, Расіі, іншых рэспублік.

Будоўля пачалася з размахам. Адначасова з падрыхтоўкай пляцоўкі пад станцыю быў закладзены вялікі пасёлак атамшчыкаў, якому далі назву Дружны. Жыллё, шматпавярховыя дамы выраслі вельмі хутка. Асабліва выдзяляецца сваёй прыгажосцю вуліца Мікалая Чэпіка, героя-інтэрнацыяналіста, які загінуў у Афганістане.

Але здарылася чарнобыльская аварыя. І жыццё ў пасёлку і на будаўнічай пляцоўцы нібы спынілася. Праз нейкія дватры гады выявілася столькі праблем, што для іх вырашэння спатрэбіцца многа часу.

Першая: што рабіць з атамнай электрастанцыяй. Людзі не хацелі другога Чарнобыля. Іх акты пратэсту мелі моц. У рэшце рэшт было прынята рашэнне будаваць у Дружным замест атамнай цеплавую электрастанцыю — мінскую ЦЭЦ-5.

— Што гэта дасць рэспубліцы? — пытаюся я ў начальніка будаўніцтва станцыі Анатоля Андрыянава.

— Беларусі востра не хапае электраэнергіі. «Імпартаваць» жа яе з'замежжа дорага. Таму і вырашана будаваць яшчэ адну ЦЭЦ. Атрыманая пара пойдзе на абагрэў пасёлкаў Дружны, Свіслач ды іншых, а электраэнергія — у агульную энергасістэму рэспублікі, — адказвае Анатоль Аляксандравіч.

— Колькі такіх станцый, як будучая ЦЭЦ-5, спатрэбіцца для поўнага забеспячэння Беларусі сваёй энергіяй? Ці плануецца будаваць усё-такі атамныя станцыі?

— Дастаткова трох такіх, як ЦЭЦ-5, каб хапіла энергіі для ўсёй рэспублікі, — кажа Анатоль Андрыянаў. — Але тут патрэбны немалыя грошы, матэрыялы. Асабліва металу. Калі развалiўся Саюз, парушыліся сувязі паміж рэспублікамі, пайшлі збоі з пастаўкай матэрыялаў. Вось і сёння, напрыклад, замест двухсот тон металу яго атрымалі толькі семдзесят.

А ў далейшым, калі нічога не зменіцца, такія перабоі нас чакаюць з газам, палівам для сілкавання энергаблокаў: сваёй жа нафты ў нас не хапае.

Таму лічу, што больш танныя для Беларусі былі б атамныя электрастанцыі. Для адной такой шукаецца месца. Ужо знойдзены ўчастак у Магілёўскай вобласці...

— Ці не ўзнікне тады пагроза новага Чарнобыля?

— Мяркую, што не, — кажа Анатоль Андрыянаў. — Пры правільным падыходзе да самой будоўлі такіх станцый, наладжвання сістэмы бяспекі, вывучэння вопыту эксплуатацыі замежных атамных станцый баяцца няма чаго. АЭС узводзіць неабходна.

У нашай гутарцы я не выпадкова задаў Анатолю Аляксандравічу і такія пытанні: «Колькі чалавек працуе на ўзвядзенні ЦЭЦ-5"? і »Хто тыя людзі?"

Падставы для гэтага ў мяне былі. Ад чыгуначнага прыпынку «Рудзенск» да пасёлка Дружны я дабіраўся пешшу. Прызнаюся, не па сваёй ахвоце: не хадзілі аўтобусы з-за недахопу паліва. Але тут, як кажуць, няма ліха без дабра. Насустрач трапляліся людзі, з якімі ўдалося перагаварыць ці хоць абмяняцца двума-трыма словамі. А гутарылі мы пра жыццё ў Дружным. Вось некалькі кароткіх дыялогаў.

— Куды так спяшаецеся? — спытаўся ў маладой жанчыны.

— Як куды? — здзівілася тая. — У Мінск, на працу. Баюся спазніцца.

— А я ў Рудзенск за пакупкамі, — адказала бабуля.

— Бацькі на пенсіі, зрабілі нам з жонкай прапанову памяняцца кватэрамі: яны — у Дружны, а мы — у Мінск. Еду канчаткова дамаўляцца.

— Чаму ў Мінск на працу? Чаму ў Рудзенск за пакупкамі? Чаму хочуць памяняцца месцажыхарствам? — «выпаліў» я пытанні мужчыне сярэдніх гадоў, што няспешна ішоў па галоўнай вуліцы імя Мікалая Чэпіка.

— А таму, — стаў тлумачыць той, — што ў Дружным нібы спынілася само жыццё: работу не знойдзеш, у магазінах — хоць шаром пакаці... У пачатку ж закладкі пасёлка тут было ўсё: хадзілі ад станцыі аўтобусы, рэгулярна прывозілі прадукты, паўсюль патрабаваліся рабочыя рукі.

Сцяпан Платонавіч, так звалі майго субяседніка, коратка расказаў сваю біяграфію. Сорак пяць гадоў. Нарадзіўся на Чарнігаўшчыне. Шмат гадоў ездзіў па «будоўлях стагоддзя», працаваў мантажнікам. Калі даведаўся пра Мінскую атамную, прыехаў сюды. Ажаніўся з беларускаю.

І ён, і жонка страцілі працу адразу пасля чарнобыльскіх падзей. Спачатку ўладкаваўся ў Мінску. А год назад трапіў у лік беспрацоўных.

Што рабіць? Ехаць да сябе ў вёску на Чарнігаўшчыну?.. Няма грошай на пераезд. Ды яшчэ жонка не жадае выязджаць за мяжу: тут нямала ў яе сваякоў...

Слова «беспрацоўе» не сыходзіла з вуснаў маіх субяседнікаў. Сакратар Свіслацкага пасялковага Савета, да якога адносіцца Дружны, скардзілася, што маладзейшыя мужчыны кідаюць усё і едуць на заробкі ў ...Польшчу, а ім, маладым жанчынам, асабліва маці, хоць разарвіся: дзіця нельга ў садзік уладкаваць, ды і дорага, у школе няма месцаў, не працуюць секцыі для хлопчыкаў і дзяўчынак, цяжка з жыллём.

І нібы працягам гутаркі з Людмілай Бахаравай, сакратаром, стала размова з дзвюма дзяўчатамі гадоў па васемнаццаць, якія на вуліцы чакалі старшыню пасялковага Савета. Прыйшлі яны сюды, каб атрымаць дазвол на выпіску.

— Навошта ж пакідаць такі цудоўны пасёлак? — спытаўся я.

— А што нам рабіць? — адказала адна з дзяўчын. — Нават простую спецыяльнасць тут не атрымаеш. Хацелі курсы швачак скончыць, а іх тут няма.

— Нічога тут не выседзіш, — дадала другая і шчыра прызналася: — У нас і замуж няпроста выйсці, хлопцы ўсе параз'язджаліся.

Сабраліся дзяўчаты ў Магілёў па запрашэнню сваякоў: абяцалі ўладкаваць на працу на "Хімвалакно".

А бабулькі, што прадавалі садавіну,



гароднiну ля пыльнай дарогі, скардзіліся на адсутнасць хоць міні-рынку...

У той дзень наслухаўся ў Дружным шмат чаго. І амаль усе расказы мясцовых жыхароў былі далёка не аптымістычныя. Жывуць тут людзі маладыя, і кожнага хвалюе пытанне: што іх чакае?

Але вернемся да гутаркі з Анатолем Андрыянавым. Вось што ён адказаў на мае пытанні.

— На ўзвядзенні ЦЭЦ-5 працуюць часцей людзі прыезджыя. Нам гэта выгадна. І сапраўды, жылля яшчэ не хапае. А прыезджыя, ці, як іх называюць, вахтавікі, адпрацавалі сваё і паехалі на іншы аб'ект — кватэры не патрабуюць. Цяпер занята на аб'екце 1 500 чалавек.

Анатоль Аляксандравіч не стараўся схаваць, згладзіць праблемы будучага пасёлка энергетыкаў. Так, не хапае працы, мала жылля, садовых участкаў, школ, лазняў. Але справа гэтая часовая. Ён верыць, што ўсё наладзіцца. Ужо сёлета плануецца пабудаваць першы ў Дружным кінатэатр, да дзевяноста пятага года ўзвесці бальнічны комплекс на 700 наведвальнікаў... Заканчэнне будаўніцтва гарантуе ўладкаванне на працу як мінімум двум з паловай тысячам чалавек. Але гэта пакуль планы, перспектывы. А жыхарам Дружнага хацелася б, каб нешта змянілася ў лепшы бок ужо ў бліжэйшы час.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**



**НА ЗДЫМКАХ: панарама будаўнічай пляцоўкі ЦЭЦ-5; жылыя дамы ў пасёлку Дружны; начальнік станцыі ЦЭЦ-5 Анатоль АНДРЫЯНАЎ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# НА БЯДЗЕ ЛЮДЗЕЙ НАЖЫВАЮЦЦА БЮРАКРАТЫ,

## або ЯК ДЗЕЦІ З БЕЛАРУСІ АДПАЧЫВАЛІ Ў МЕЛЬБУРНЕ

Задачай беларусаў Аўстраліі, якія згуртаваліся ў Федэральнай радзе беларускіх арганізацый, ужо здаўна было яднацца ды пашыраць сваю культуру, звычаі сярод англасаксонскага асяроддзя. Таксама мэтай было адкрываць свае нацыянальныя, ні ад кога незалежныя духоўныя асяродкі ды праз радыёпраграмы расказваць аб нашай краіне Беларусі, што і зроблена з вялікімі вынікамі.

Ды вось на табе, на нашую шматпакутную Бацькаўшчыну звалілася бяда — чарнобыльская катастрофа, якая спустошыла больш як палову нашых зямель, а з гэтым і вялікая радыяцыя, што забрала і забірае да сёння людзей, а менавіта маленькіх дзетак. Гэта і прывяло беларусаў Аўстраліі да думкі, што трэба памагчы нашаму шматпакутнаму народу. І такім чынам рада стварыла Чарнобыльскі фонд помачы пацярпеўшым. І калі звярнуліся да беларусаў Аўстраліі, то людзі зразумелі, што гэтая бяда ёсць спусташальнай для беларускага народа. Можна сказаць, што палавіна нашых суродзічаў адгукнулася на заклік Федэральнай рады, і такім чынам сабралі 37 000 долараў. За гэтыя грошы закупілі аднаразовыя шпрыцы, рэнтгенаўскі апарат для дзіцячай бальніцы, харчы і шакалад і ўсё даставілі ў Гомельскую абласную бальніцу праз свайго пасланца. На гэтым не скончылася наша праца.

Падхапілі ініцыятыву бацькоў маладыя людзі пры царкве ў Мельбурне, ладзяць розныя імпрэзы, і Чарнобыльскі фонд дзейнічае і па сённяшні дзень. Спрабавалі прывезці дзяцей з чарнобыльскай забруджанай зоны, а менавіта з Гомельскай і Магілёўскай абласцей, але ніяк немагчыма было наладзіць сувязь з арганізацыяй «Дзеці Чарнобыля» на Бацькаўшчыне.

І вось пасля паўгода нашых пошукаў навязвае лучнасць з Выканаўчым камітэтам Федэральнай рады спадар Валерый Лісітчын, дырэктар экалагічнай медыцыны горада Магілёва. Знайшоўшы тэлефон старшыні Федэральнай рады сп-ра А.Грушы, ён стаў прасіць, каб беларусы заапекаваліся дзецьмі, якіх ён прывязе. А.Груша стаў каардынатарам гэтай справы і даў згоду на прыезд 15 дзяцей і 2 праваднікоў на 8 тыдняў, гэта значыць з 1.4.93 па 27.5.93 года. Людзі ў пажылым веку ад 68 да 75 гадоў адгукнуліся на гэтую справу. Частка дзяцей і адна праваднічка па нейкіх прычынах не прыехалі, а прыехала дзесяцёра — чатыры хлопчыкі і шэсць дзяўчынак ад 9 год і вышэй.

У гэтай групе быў сам дырэктар сп-р Валерый Лісітчын, яго дачка, яго сын... Калі прыехалі на аэрадром спатыкаць гасцей з беларускім нацыянальным сцягам, кветкамі і ласункамі, усе расчараваліся, бо дзеці паказаліся якімісь ну проста адчужанымі і, проста сказаць, ігнаравалі тых, у каго збіраліся жыць 8 тыдняў.

Ні адно дзіця не гаварыла хоць аднаго слова па-беларуску, а проста смяяліся з гэтых бедных старых і гаварылі ў вочы, што, маўляў, «я не буду гаварыць на гэтым каравым языку». Многія з гэтых старых, каб ратаваць сваю мову і культуру, пакінулі Бацькаўшчыну і на працягу 50-ці гадоў блукалі па свеце, а тут прыехалі дзеці, якія яшчэ наўмысна сталі папракаць ды абзываць іх мову «каравым языком». Думалася, што зробіцца помач нашым бедным дзецям, паможам, чым толькі можам, але ўсё пайшло наадварот. Дайшло да таго, што ад трох дзяцей людзі не вытрымалі здзеку і завезлі іх да каардынатара.

Беларусы наладжвалі ўсякія экскурсіі па гістарычных мясцінах Аўстраліі, па музеях, на мора, у заалагічны сад, арганізавалі катанне на параходзе па месцах, куды прыехалі першыя пасяленцы ў Аўстралію, наладжвалі спатканні з грамадскасцю, каб больш паказаць цікавага, вадзілі ў нашую праваслаўную царкву, школу. Усё гэта дзяцей не цікавіла, яны адыходзілі ад людзей і сядалі гуляць у карты. На пачастунках куплялася самая лепшая і разнастайная ежа і напіткі ды марожанае, але гэта ўсё было ім не даспадобы. Калі завезлі да царквы, то ні адно не пастаяла хоць пару мінут, а ўсе — на вуліцу і за свае. Калі сталі гаварыць, што павязём іх у спецыяльную клініку, то ўсе сказалі: «А навошта, мы не хворыя». Калі задалі пытанне праваднiку, чаму прывезлі дзяцей усіх здаровых, а не маленькіх і хворых, якія патрабуюць помачы, адказ быў: «Як можна хворых дзяцей везці?!»

Пасля выявілася, што з гэтых дзяцей некаторыя былі ўжо два, а то і тры разы ў розных краінах, а сам праваднік і яго сям'я — другі раз у Аўстраліі, і астатнія — дзеці багатых бацькоў. Чаму ж тады так бюракратыя робіць: вялікія грошы з Чарнобыльскага фонду трапляюць на здаровых дзяцей, а бедныя, якія патрабуюць помачы, застаюцца не заўважанымі ні ўрадам Беларусі, ні міністрам па ахове здароўя.

Калі Беларусь перажывае вялікія цяжкасці і мае больш як 250 000 цяжкахворых дзяцей, то можна паслаць сотню, другую лёгкахворых у былыя піянерскія лагеры ці санаторыі, чыстыя ад радыяцыі. Як нам стала вядома ад нашых суайчыннікаў з Светлагорска, ды і самі мы прадчувалі адносна дзяцей, якіх трымалі ў сябе на працягу 8 тыдняў, гэта былі дзеці людзей, што займаюць вялікія пасады пры ўладзе.

Бедныя людзі просяць нас за граніцай, каб мы паспрыялі ім ды напісалі да міністра па ахове здароўя і паведамілі па газетах пра тое, што робіцца. Просяць, каб напісалі да ўрада Беларусі, каб толькі гэтую справу раскрыць, ды гэтым самым можа, нарэшце, пападзе якое дзіця, сапраўды хворае, на аздараўленне, бо на хворых дзецях робяць нажыву.

Зноў жа вернемся да старой казкі, якую паважаны дырэктар В.Лісітчын хоча ажыццявіць у наступным годзе і прывезці 30 дзяцей на 5 месяцаў. Мэта: вучыцца ў школах Аўстраліі. Ён шукае каардынатара, каб мог гэта правесці ў жыццё. Сярод аўстралійцаў, нам здаецца, яму не ўдасца знайсці нікога, бо гэта ўсё рабілася прыватным парадкам, а па-другое, калі і ўдасца, дык ён прывязе зноў такіх жа дзяцей, як і сёлета. Што б ты ні зрабіў такому дзіцёнку, ён табе не падзякуе, нават не пажадае сказаць «дабранач» ці наогул якое ласкавае слова. У англасаксонскім жа народзе за маленькую паслугу ветліва дзякуюць. Ды ўжо на аэрадроме, ад'язджаючы, не падышло ні адно дзіця і ласкава не сказала: «Ну вось, мае дарагія, я вам шчыра дзякую, што мяне глядзелі ды накуплялі падарункаў». То так не было. А паехала ж кожнае з поўнымі валізкамі і добра апранутае.

Так што, дарагія суайчыннікі, калі будзеце ехаць за граніцу і так сябе паводзіць, то не думайце, што вы цівілізаваныя і адукаваныя. Бо, як кажа народная пагаворка, «чалавека спатыкаюць па адзежцы, а праважаюць па розуму». А нас, старых, вам не ўдасца вучыць русафіцызму і сваёй азіяцкай культуры, якую вам прывівалі мангола-расейскія апрычнікі.

Жыве Беларусь і разам наш змагарны народ!

**Паўлюк ДУБРОЎСКІ.**

Аўстралія, Мельбурн.

**P.S.** Дарагая рэдакцыя! Просім вас, каб змясцілі гэты артыкул у вашай паважанай газеце, хай людзі ведаюць, што на чарнобыльскай бядзе нажываюцца бюракраты.

*У ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»*



# СУСТРЭЧА З НАСТАЎНІКАМІ

11 жніўня таварыства «Радзіма» наладзіла сустрэчу з суайчыннікамі — настаўнікамі беларускай мовы з Польшчы, Літвы і Эстоніі, якія займаюцца на курсах удасканалення, арганізаваных Міністэрствам адукацыі рэспублікі.

Ва ўтульнай зале таварыства «Радзіма» ішла шчырая сяброўская размова аб самых розных праявах нашага няпростага жыцця, праблемах адраджэння беларускай мовы і культуры, складанасцях у навучанні дзяцей. Настаўнікі падзяліліся сваімі ўражаннямі аб знаходжанні на курсах, гаварылі пра неабходнасць падтрымліваць цесныя сувязі з Беларуссю, пра аказанне ім дапамогі ў развіцці беларускага школьніцтва.

Ірына Хомчык з Таліна расказала аб першых кроках у станаўленні беларускіх класаў у сталіцы Эстоніі, Алена Базюк з Вільні — пра стварэнне беларускай гімназіі, у якой мяркуецца мець 12 беларускамоўных класаў.

Тамара Русачык з Беласточчыны спынілася не толькі на праблемах беларускіх школ у гэтым краі, але і на становішчы беларусаў у суседняй дзяржаве.

У сваю чаргу, Уладзімір Навіцкі, намеснік старшыні праўлення таварыства «Радзіма», пазнаёміў прысутных з асноўнымі напрамкамі дзейнасці таварыства, падзяліўся яго планамі на будучыню і расказаў пра магчымасць падтрымкі таварыствам арганізацый суайчыннікаў замежжа ў культурна-асветніцкай галіне.

Прадстаўнік Міністэрства адукацыі Генадзь Пяцігор выказаў свае меркаванні аб аказанні дапамогі ў забеспячэнні беларускіх школ замежжа неабходнымі ім падручнікамі, дыдактычнымі матэрыяламі, літаратурай для дзяцей.

Сустрэча атрымалася цікавай, змястоўнай і карыснай для ўсіх прысутных.

**М. КАЖУРА,**
**старшы рэферэнт таварыства «Радзіма».**

**НА ЗДЫМКУ:** у час сустрэчы ў таварыстве «Радзіма».

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**Выканкам Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады шчыра дзякуе грамадзянам, прадпрыемствам і арганізацыям, якія ўнеслі сродкі на будаўніцтва помніка Міхасю Ткачову.**

**Міхась Ткачоў — першы старшыня БСДГ, вядомы беларускі вучоны, доктар гістарычных навук, прафесар, былы Галоўны рэдактар выдавецтва Беларускай Энцыклапедыі. Памёр у 1992 годзе.**

Каралёва Д.С. (г. Мсціслаў) 10 000 рублёў;
прыхільнік БСДГ 20 000 рублёў;
Міраслаў Целушэцкі (г. Беласток) 46 000 рублёў;
Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі 100 000 рублёў;
выдавецтва Беларускай Энцыклапедыі 30 000 рублёў;
Праўленне Белкаапсаюза 100 000 рублёў;
Цітовы (в. Шыркі Мсціслаўскага раёна) 5 000 рублёў;
Казлоўскія (г. Мсціслаў) 2 000 рублёў;
Вячаслаў Болбат (г. Баранавічы) 10 000 рублёў;
Беларускі фонд культуры 30 000 рублёў;
ГІФ «Белая Русь» 25 000 рублёў;
АТ «Кросны» 50 000 рублёў;
выдавецтва «Полымя» 100 000 рублёў;
Управа Сойму БНФ «Адраджэнне» 50 000 рублёў;
МП «Залессе» 25 000 рублёў;
выканкам Смаргонскага райсавета 150 000 рублёў;
Бараўлянская суполка БСДГ 3 200 рублёў;
Смаргонская філія БСДГ 2 500 рублёў;
Дзяржынская суполка БСДГ 500 рублёў;
Жодзінская філія БСДГ 5 100 рублёў;
Мастоўская суполка БСДГ 3 000 рублёў;
Баранавіцкая філія БСДГ 6 800 рублёў;
Гарадоцкая філія БСДГ 2 800 рублёў;
Наваполацкая філія БСДГ 1 440 рублёў;
Вештард І.З. 2 000 рублёў;
Васілеўскі А.Б. 1 440 рублёў;
удзельнікі Першага з'езда Беларусаў свету 21 242 рублі;
Пінская філія БСДГ 5 000 рублёў;
Собаль В.Е. 1 000 рублёў;
Пухавіцкая філія БСДГ 5 000 рублёў;
Сянькевіч Н.М. 1 500 рублёў;
ПКО «РЕСТА» 200 000 рублёў;
Падалінскі Г.П. 1 500 рублёў;
выканкам Смаргонскага гарсавета 100 000 рублёў;
Слаўгарадскі гарсавет 100 000 рублёў;
выдавецтва «Беларусь» 100 000 рублёў;
СП «РЕНОВАТУМ» 100 000 рублёў;
Філіял ТОО «ВІА» 175 000 рублёў;
Дзімідчык Л.Д. 5 000 рублёў;
настаўнікі СШ N 3 г. Жодзіна 5 000 рублёў;
Беларускі рэстаўрацыйна-праектны інстытут 50 000 рублёў;
Каўка А.К. 7 720 рублёў;
Янка Запруднік (ЗША) 20 долараў;
Мікола Латушкін (ЗША) 200 долараў;
Вітаўт Кіпель (ЗША) 60 долараў;
Янка Жучка (Бельгія) 10 долараў.

**Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь:**

сс. Пырх І.І., Цялежнікаў У.І., Крыжаноўскі М.К., Аксаміт М.У., Заблоцкі У.М., Малашка В.А., Цумараў Я.А., Зданевіч Л.І., Навумчык С.І., Баршчэўскі Л.Т., Шут А.А., Дзейка Л.І., Вярцінскі А.І., Слабчанка С.І., Голубеў В.Ф., Маркевіч М.М., Холад П.І., Козік Л.П., Папоў Ю.М., Міцько П.П., Новікаў Я.В., Какоўка В.Ф., Паўлаў В.В., Сасноў А.В., Глушкевіч Я.М., Вячэрскі Р.А., Даўлюд А.У., Спіглазаў А.Ф., Цесавец М.М. — 30 900 рублёў);
сс. Новік У.У., Грушавы Г.У., Беленькі Ю.А., Ганчар В.І., Грыбанаў В.М., Слямнёў М.А., Давідовіч С.Ф., Гюнтэр Б.Д., Пазьняк З.С., Марыніч М.А., Герасіменка А.М., Лавіцкі Г.М., Радкевіч Л.І., Янец А., Арцыменя Д.К., Звераў Л.А. — 30 500 рублёў);
сс. Канапля Я.Ф., Трусаў А.А., Сярэдзіч І.П., Шушкевіч С.С., Алампіеў В.П. — 15 000 рублёў);
с. Карпенка Г.Д. 5 000 рублёў;
с. Каратчэня У.М. 10 000 рублёў;
с. Гілевіч Н.С. 10 000 рублёў;
с. Катушкін П.М. 10 000 рублёў;
с. Садоўскі П.В. 5 000 рублёў;
с. Фарфель М.А. 2 500 рублёў.

**Для тых, хто жадае дапамагчы ў пабудове помніка, нагадваем, што сродкі трэба пералічваць на адрас: 220600, г. Мінск, вул. А. Кашавога, 9, Заводскае аддзяленне Белпрамбудбанка, рахунак 700810, код 338, ЦР БСДГ, на помнік М. Ткачову.**

# МНОГІЯ ПРЫЙДУЦЬ АД ІМЕНІ МАЙГО

## (ЕЗУІТЫ НА БЕЛАРУСІ)

Станіслаў ЦЯРОХІН

Працяг. Пачатак у № 33.

Раззлаваны Лопес вырашыў, што ў Іспаніі, дзе не разумеюць яго вялікіх ідэй, няма ўжо больш чаму вучыцца, і пешшу накіраваўся ў Парыж. Атрыманыя на універсітэцкіх курсах у гарадах Алкала і Саламанка веды дазвалялі паступіць у Сарбону, якая прыцягвала тысячы слухачоў імёнамі сусветна вядомых свяцілаў навукі. Адны імкнуліся ўмацавацца ў дагматах каталіцкай веры, другія, наадварот, хацелі азнаёміцца з ідэямі Лютэра, Цвінглі, Кальвіна і Меланхтона. Але І.Лопес чамусьці абыходзіць першы ў Еўропе універсітэт і 1 лютага 1528 года паступае ў агульнагуманітарны калегіум Манцегю на вуліцы Сямі дарог. Затым праслухаў поўны курс калегіума св. Варвары і ў 1532 годзе атрымаў тагачасную навуковую ступень магістра мастацтваў. Пасля працягвае вучобу на багаслоўскіх курсах пры дамініканскім манастыры на вуліцы Св. Якава.

Па з'яўленні ў 1528 годзе ў Парыжы Ініга Лопес дэ Рэкальдэ змяняе сваё імя і з гэтага часу завецца па назве бацькоўскага замка Лаёлай. Цяпер цяжка меркаваць, чым гэта выклікана: асабова-псіхалагічнымі матывамі ці меркантыльна-практычнымі разлікамі. Хутчэй за ўсё змена імя абумоўлена некалькімі прычынамі, у тым ліку ўзбагачаным жыццёвым вопытам і набытымі ведамі, што значна пашырыла агульны культурны кругагляд правінцыйнага гідальга. Застаючыся па-ранейшаму фанатычным прыхільнікам своеасабліва зразуметага хрысціянства і даведзенай да абсурду маралі, Лаёла пад уздзеяннем перажытага, вучобы і знаёмства з рознымі сацыяльнымі коламі грамадства шмат у чым змяніўся: стаў больш практычным і абачлівым, навучыўся крытычна ацэньваць свае магчымасці і не ўвязвацца ў кожную дыскусію. Згладзіліся многія шурпатасці характару, спыніліся псіхапатычныя выбрыкі. Значных поспехаў дасягнуў ён і ў рыторыцы, яго красамоўства збірала многа слухачоў унутранай перакананасцю і эмацыянальнасцю жывога, пазбаўленага схаластыкі слова. Аднойчы, яшчэ ў час вучобы, увесь курс збег з заняткаў слухаць прамову Лаёлы, пакінуўшы прафесара аднаго ў пустой аўдыторыі. Абражаны выкладчык паскардзіўся прыёру калегіі і патрабаваў прамоўцу адлупцаваць дубцамі. Сваёй апраўдальнай прамовай Лаёла да слёз расчуліў манаскую Раду калегіі, так што яе старшыня Гавеян прыйшоў у замілаванне і назваў яго святым чалавекам.

Цяпер Лаёла цалкам аддаўся справе стварэння духоўнага брацтва і праз нейкі час здолеў трэці раз скалаціць групу з шасці чалавек, якую ён называў «баявой кагортай». У яе ўвайшлі Ляфэўр, Ксаўе, Лайнес, Сальмярон, Альфонс, Радрыгес, усе маладыя, бедныя і адданыя папскаму прастолу. 15 жніўня 1534 года, якраз на Прачыстую, усе сямёра ў адной з крыптаў катакомбаў Манмартра, дзе ў 272 годзе быў закатаваны першы біскуп парыжскі Дзіянісій, прысягнулі перад алтаром у вернасці створанай суполцы і далі зарок захоўваць цнатлівасць і спрадвечную беднасць. Тут жа было вырашана па заканчэнні вучобы паехаць місіянерамі ў Палесціну або, калі паездка з якой-небудзь прычыны сарвецца, з'явіцца ў Рым да папы, прысягнуць у безумоўным падпарадкаванні і безадмоўнай паслухмянасці.

У савецкай гістарыяграфіі прыняцце прысягі ў крыпце Дзіянісія прынята лічыць актам заснавання «Таварыства Ісуса», або ордэна езуітаў (ад лацінскага Езус-Ісус). У сапраўднасці да стварэння ордэна было яшчэ далёка, амаль сем гадоў. За гэты час «баявая кагорта» некалькі разоў была на грані развалу. Захавалася ж яна дзякуючы толькі звышчалавечай выкрутлівасці Лаёлы, яго спрыту, энергіі і гатоўнасці ісці дзеля дасягнення мэты на любую здзелку з сумленнем. Калі, напрыклад, расчараваны Радрыгес наважыўся ўпотай пакінуць гурток і падацца ў Венецыю, да яго ноччу з'явілася высачэзная постаць з мячом у руках і іменем Бога загадала застацца са сваім кіраўніком. Лаёла часта звяртаўся да розных прароцтваў і цудаў для падбадзёрвання сваіх паплечнікаў. Па дарозе ў вечны горад ён заявіў ім, што падчас малітвы ў напаўразбуранай капліцы перад ім з'явіліся Бог са сваім сынам. Усявышні даручыў Ісусу апекавацца над новым брацтвам і сказаў: «У Рыме я буду спрыяць табе».

Папа Павел III прыязна выслухаў прапанову стварыць ордэн для аднаўлення і распаўсюджвання ва ўсім свеце каталіцкай царквы, але не даў сваёй згоды, дыпламатычна паабяцаўшы падумаць, бо падзяляў рашэнні латэранскага (1215 год) і ліёнскага (1274 год) сабораў аб забароне заснавання новых ордэнаў. Папа лічыў іх бескарыснымі і нават шкоднымі. Але ідэі Рэфармацыі з кожным годам усё больш і больш расхіствалі некалі моцны будынак узначаленай ім царквы. Барацьба з папскім абсалютызмам і абскурантызмам рымскай курыі, ліхвярствам і хабарніцтвам, з гандлем царкоўнымі пасадамі і індульгенцыямі распаўсюджвалася па ўсёй Еўропе. Ранейшыя выпрабаваныя метады ўтаймавання ератыкоў: угаворванне, пагрозы, катаванні ў сутарэннях інквізіцыі, пакаранне смерцю, вайсковыя экзекуцыі — ужо не давалі належнага эфекту. Пажар Рэфармацыі ахопліваў усё новыя краіны, разрастаючыся ва ўсе бакі.

Спачатку ў Ватыкане недаацанілі небяспеку. Але калі Англія, Галандыя, Данія, Швецыя і Нарвегія адпалі ад Рыма, першасвятар сур'ёзна задумаўся. Папа Клімент VII не здолеў вынайсці дзейсных сродкаў барацьбы з новай ерассю і вальнадумствам прыхільнікаў Марціна Лютэра, Ульрыха Цвінглі, Жана Кальвіна, Філіпа Меланхтона і са скрухай сышоў у магілу, пакінуўшы свайму пераемніку Паўлу III незайздросную спадчыну — рымска-каталіцкую царкву ў стадыі глыбокага крызісу.

Не засталося ў баку і Вялікае Княства Літоўскае, цесна звязанае эканамічнымі і культурнымі сувязямі з Заходняй Еўропай. Адна за другой узнікаюць пратэстанцкія абшчыны на Беларусі, напрыклад, у Нясвіжы, Брэсце, Клецку, Ляхавічах, Койданаве, Навагрудку. Ідэі рэфармізму і заходнееўрапейскага гуманізму знаходзяць водгук ва ўсіх станах тагачаснага грамадства: шляхты, рамеснікаў і сялян. Пераходзяць у кальвінізм і такія буйныя беларускія феадалы, як Радзівілы, Кішкі, Сапегі, Хадкевічы і інш.

А тым часам, пакуль Павел III думаў над прапановай І. Лаёлы, «баявая кагорта» заваёўвала аўтарытэт выступленнямі ў храмах з казаннямі супраць разбэшчанасці, малавер'я і амаральнасці, бязлітасным выкрываннем ератыкоў. Найбольшую вядомасць сябры суполкі набылі ў час голаду, які супаў да ўсяго з нябачнай у Рыме халоднай зімой 1539 года. На вуліцах і плошчах яны падбіралі знясіленых людзей і адносілі ў прытулак, створаны ў доме іспанскага гідальга Гарцоніа. Тут няшчасных адагравалі, кармілі, паілі, давалі ім адзенне і невялікую суму грошай, якія збіралі ў дамах багатых рымлян.

Напрадвесні 1540 года Лаёла зноў напамінае папе аб сабе. І праз кардынала Кантарыні перадае яму сціслы праект статута будучага таварыства. Павел III уважліва азнаёміўся з праектам і ў замілаванні радасна выгукнуў: «Тут бачна воля Божая!». Асабліва спадабаўся яму апошні, чацвёрты пункт, а дакладней, зарок: «Прысвяціць сваё жыццё заўсёднаму служэнню Хрысту і папе, выконваць вайсковую службу пад сцягам крыжа, служыць толькі Ісусу і рымскаму першасвятару, як яго зямному намесніку; такім чынам, толькі сапраўдны папа і яго пераемнікі будуць кіраваць ордэнам у справе выратавання душ і распаўсюджвання веры...». Пераадолеўшы шэраг фармальнасцяў, звязаных з рашэннямі латэранскага і ліёнскага сабораў і ўпартасцю кардынала Гвідзічыёні, які спачатку адмовіўся нават разгарнуць праект, папа выдае 27 верасня 1540 года адмысловую булу аб зацвярджэнні «Таварыства Ісуса». Перад Вялікаднем, 17 красавіка 1541 года, Павел III зацвердзіў Ігната Лаёлу генералам ордэна.

Апошняя фармальнасць — прынародная цырымонія прыняцця прысягі адбылася 22 красавіка перад галоўным алтаром храма св. Паўла за гарадской сцяной. З гэтага дня ордэн езуітаў атрымаў афіцыйны статус і разгарнуў сваю дзейнасць пад засенню папскага прастола. 14 сакавіка 1543 года Павел III абнародаваў булу, якая дазваляла ордэну езуітаў мець неабмежаваную колькасць сяброў і змяняць адпаведна патрабаванням часу артыкулы статута без дазволу папы, а гэта сведчыць пра тое, што ўсяго за два гады свайго афіцыйнага існавання народжаны з парушэннем пастаноў двух сабораў ордэн заваяваў поўны давер першага рымскага іерарха.

Езуіты адразу ж разгарнулі актыўную дзейнасць у Ост-Індыі, Ірландыі, Іспаніі, Францыі, Венецыі. Дзейнічалі напорыста, ужываючы ўсе магчымыя сродкі ў барацьбе з пратэстантамі. Славуты наказ Лаёлы: «Мэта апраўдвае сродкі» — развязваў езуітам рукі і накіроўваў на беспярэчнае выкананне загадаў, загадзя вызваляючы ад маральных сумненняў і ваганняў. Ужо ў першы год выхаду езуітаў на гістарычную арэну яны здолелі дасягнуць прыкметнага поспеху. У Лісабоне, напрыклад, Радрыгес, той, што некалі хацеў пакінуць Лаёлу, увайшоў у поўны давер да караля Хуана III і амаль цалкам падмяў партугальскую царкву пад свой уплыў.

Канчаткова сфарміраваная арганізацыйная структура «Таварыства Ісуса» складалася з шасці класаў: навіцыі (паслушнікі), схаластыкі (вучні), свецкія каад'ютары (кандыдаты), духоўныя каад'ютары, спаведнікі трох зарокаў і спаведнікі чатырох зарокаў. Навіцыі і схаластыкі мелі права выхаду з ордэна без ніякіх непрыемных наступстваў. Пачынаючы з трэцяга класа, вяртанне ў свет было немагчыма. Езуіты 1—5-га класаў былі сляпымі выканаўцамі волі старэйшых і не ведалі сапраўдных матываў шмат якіх распараджэнняў, хаця многія з іх, як напрыклад, духоўныя каад'ютары, займалі пасады даволі прыстойныя і адказныя — кіраўнікоў калегіумаў, святароў з правам споведзі па-за межамі ордэна, місіянераў з вялікімі паўнамоцтвамі. Аднак усе сакрэтныя намеры, планы і захады ведалі толькі прадстаўнікі шостага класа — спаведнікі чатырох зарокаў. Права даць чацвёрты зарок (падпарадкаванне папе) атрымоўвалі літаральна адзінкі, тыя, што былі душою і целам адданыя генералу і ордэну. Але было мала аднаго гэтага. Да ўсяго патрабавалася здольнасць дыпламатычна ўхіляцца ад выканання папскіх распараджэнняў, калі яны супярэчаць інтарэсам ордэна. Колькасць спаведнікаў чатырох зарокаў не перавышала 50-ці чалавек нават у гады найбольшага росквіту «Таварыства Ісуса».

На чале ордэна стаяў генерал-прэпозіт, неафіцыйна званы «чорным папай». Выбіраўся ён вярхоўнай радай пажыццёва. Генерал старшынстваваў на пасяджэннях рады і меў пры галасаванні два галасы. Але сапраўдным езуіцкім «палітбюро» была тайная рада з пяці асістэнтаў, прадстаўнікоў правінцый, і адманітора (дарадчыка). Ён абавязаны даваць генералу «ў паважлівай форме» сакрэтныя парады ў выпадку прыняцця шкоднага для ордэна рашэння. Тайная рада валодала правам склікання вярхоўнай рады і фармальна магла нават дамагчыся зняцця генерала, але на практыцы гэта было амаль немагчыма, бо патрабавалася загадзя заручыцца пісьмовай згодай правінцый, а іх пры канцы жыцця Лаёлы было 12, а праз 60 гадоў пасля яго смерці (31 ліпеня 1556 года) — 39. Кіравалі імі правінцыялы, падпарадкаваныя непасрэдна генералу. Яны, кожны ў сваёй правінцыі, былі паўнапраўнымі гаспадарамі і карысталіся правам прызначэння выкладчыкаў у навучальных установах, пракурораў, якія неслі адказнасць за маёмасныя справы, святароў, свецкіх, навуковых і санітарных прэфектаў, адміністрацыю калегіумаў, спаведнікаў, місіянераў, раднікаў, прафесараў і сяброў рады калегіумаў. Віцэ-правінцыялы, старшыні канвіктаў (пансіёнаў, інтэрнатаў), спаведнікаў і навіцыяў, рэктары і канцлеры калегіумаў і іншыя адказныя асобы, гаворачы партыйным шаблонам, з'яўляліся наменклатурай генерала.

Строгая цэнтралізацыя і суровая дысцыпліна, заснаваная на адрачэнні ад свайго «я», сям'і, зароку паслухмянства і беднасці, ды схаластычнае, спецыфічна з'арыентаванае навучанне і іншыя да дробязяў прадуманыя чыннікі фарміравалі да фанатычнасці адданыя кадры, здольныя слепа выконваць загады старэйшых і ў пэўных умовах дзейнічаць самастойна. Езуіты мелі грунтоўную тэалагічную і някепскую агульнаадукацыйную падрыхтоўку, што ўлічвалася поруч з іншымі патрабаваннямі пры пераходзе ў кожны наступны клас. Усе навіцыі, а гэта былі пераважна дзеці і юнакі, праходзілі адпаведную селекцыю па асабістых здольнасцях і схільнасцях да таго ці іншага віду дзейнасці і размяркоўваліся на тры паралельныя аддзяленні: свецкае, духоўнае і нейтральнае. З першых рыхтавалі настаўнікаў, чыноўнікаў, эканомаў і г.д., з другіх — святароў, місіянераў, манахаў. У трэцяй групе знаходзіліся тыя, чые здольнасці яшчэ не выявіліся.

Усё жыццё «Таварыства Ісуса» было рэгламентавана, нават манера трымацца, якую, як падаюць біёграфы, Лаёла доўга абдумваў, сем разоў са слязьмі на вачах звяртаўся з малітвай да Бога: «Галава злёгку нахілена ўперад, але не ўправа ці ўлева; вочы апушчаны гэтулькі, каб не глядзець на субяседніка, а наўскос сачыць за ім; панурыцца і моршчыць нос не варта, наогул захоўваць спакойную паважнасць, але пры гэтым знешні выгляд мець больш ласкавы і задаволены, чым сумны; не разяўляць рота і не сціскаць губы; хадзіць па магчымасці заўсёды паважна».

Не засталася па-за ўвагай і езуіцкая уніформа. Тут Лаёла скарыстаў матывы васконскага касцюма — самбрэра, або капялюш з шырокімі брылямі, чорная сутана і плашч старыннага крою. У адрозненне ад іншых ордэнаў езуітам дазвалялася хадзіць у цывільным адзенні, а ў выпадку неабходнасці паяўляцца сярод людзей у паліуме біскупа, мантыі кардынала, сурдуце чыноўніка, фраку свецкага франта. Адным словам кажучы, мэта апраўдвае сродкі.

# СЯСТРА ВЯЛІКАГА ПАЭТА

*(ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ А.М. ЛОЙКІ)*

Ціха, мірна, неўпрыкметку жылі пры Літаратурным музеі Якуба Коласа ў Мінску двое паважных людзей — Алена Міхайлаўна і Міхаіл Іванавіч Лойкі. Сястра народнага паэта з мужам. Шчыра неслі яны песняру сваю журботную даніну: дбайна даглядалі і ахоўвалі гэты святы куток Беларусі. Гаспадарыў на сядзібе неўгамонны Міхаіл Іванавіч — то падмятаў двор, то «лячыў» дрэвы ў садзе, то наводзіў парадак пад паветкай. Не сядзелася ў хаце і Алене Міхайлаўне. Палівала кветкі (музей павінен выгляд мець прыгожы!). За межы сядзібы яна выходзіць не адважвалася: сілы не тыя. Дый, сказаць па праўдзе, не было патрэбы. Інтэндацкія функцыі пасляхова спраўляў Міхаіл Іванавіч. Не зважаючы на даволі шаноўны свой узрост, ён пачуваў сябе добра.

Мы, работнікі музея, ганарыліся, што працуем з сястрой слыннага чалавека. Хваліліся гэтым і наведвальнікам. Тыя прагна прасілі сустрэчы з ёю. Алена Міхайлаўна ахвотна выходзіла да людзей. Апавядала пра долю «новазямельцаў», пра свой і братаў родны кут. Гаворку пачынала звычайна так:

«Брата свайго я добра помню з таго часу, калі мне было пяць гадоў. Тады ён пайшоў вучыцца ў настаўніцкую семінарыю. Гэта ў Нясвіжы. Адтуль пісаў нам пісьмы, а на канікулы прыязджаў дадому. І часта з кім-небудзь са сваіх сяброў. Па месяцу яны бывалі ў нас. Елі асобна ад сям'і. Няёмка за адзін стол саджаць гасцей (дзетвары ж у хаце было многа!).

Калі прыязджаў Костусь, да яго заходзілі хлопцы і дарослыя мужчыны. Ім ён любіў расказваць розныя былі, анекдоты, чытаць цікавыя кнігі».

Запытвалі слухачы, як да Коласа ставіліся ў сям'і, і чулі ў адказ:

«Дома ўсе Костуся любілі і паважалі. Раз Уладзя (самы старэйшы наш брат) падвыпіў з хлопцамі, прыйшоў дадому і трошкі разбушаваўся. Праўда, не біўся, не лаяўся. Вазіўся з сабакам, дурэў. Усе пачалі яго супакойваць. Анічагусенькі не памагло. Як толькі з'явіўся Костусь і сказаў адно слова — адразу ўціхамірыўся. Яго нельга было не паслухацца. Меў ён да кожнага разумны падыход».



На пытанне, чым Якуб Колас займаўся, калі прыязджаў на канікулы, Алена Міхайлаўна адказвала:

«Костусь вельмі любіў касіць. З дзядзькам Антосем яны заўсёды хадзілі ў пары. А збіраць грыбы — найпершы ахвотнік! Устане, бывала, ранёнька, возьме кошык і — у лес. Браў толькі баравікі і не абы-якія, а цвёрдыя, маладзенькія.

Хораша Костусь іграў на скрыпцы. Іх вучылі ў семінарыі. А Уладзя — на гармоніку. Сам па сабе. Дык яны выйдуць, помню, вечарам, сядуць на дварэ і як зайграюць! Рэха разлягаецца навокал. Назаўтра хто прыйдзе з Акінчыц: «Малайцы, хлопцы! Дзякуй за канцэрт!» Наогул у нас у сям'і любілі музыку, песні. Усе ўмелі спяваць. Я нават у хоры царкоўным была. У Мікалаеўшчыне».

Ці раз мы, супрацоўнікі музея, слухалі яе разам з наведвальнікамі і ў асабістых гамонках. І заўсёды, бывала, пачуеш нешта новае, дасюль невядомае пра род Міцкевічаў, пра вялікага песняра зямлі беларускай. Сяды-тады гаварыла і пра сваё асабістае жыццё:

«У 1913 годзе я выйшла замуж за Лойку Міхаіла Іванавіча (родам з Мікалаеўшчыны). Ён адслужыў армію, жылося бедна, не было куды падзецца. Дык мы ўзялі і паехалі ў Данбас, у Горлаўку. Там жыла стрэйшая мая сястра Міхаліна. Яна ў нас пасля Коласа. А на чыгунцы ў Горлаўцы працаваў інжынерам Радкевіч (таксама з Мікалаеўшчыны). Майго Міхаіла ён узяў да сябе ў кантору. Там многа, у гэтым горадзе, было мікалаеўцаў. Радкевіч купляў кнігі, сшыткі і вучыў сваіх землякоў. Многім слаў у вёску грошы. Вельмі людскі чалавек быў».

З радзімай Алена Міхайлаўна вяла трывалую перапіску. А калі ў 1921 годзе Колас пераехаў з Куршчыны ў Мінск, вырашыла наведаць брата. Жыла нешта з месяц. Была і на яго юбілеі ў 1926 годзе (на 20-годдзі літаратурнай дзейнасці). Прыязджала яшчэ некалькі разоў. І кожны раз адчувала цеплыню адносін з боку ўсіх сямейнікаў. Асабліва падабалася Алене Міхайлаўне братава жонка Марыя Дзмітраўна. Яе ўспаміналa яна заўсёды з лёгкай радаснай слязою:

«Гэта быў залаты чалавек. Не магу спакойна ўспамінаць. Такая добрая, разумная! І да дзяцей, і да Коласа, і да ўсіх людзей. Жылі яны вельмі дружна. Шанавала яна Коласа. А ён яе таксама. Каб не такая жонка брату надарылася, то можа ён і такім вялікім не стаў бы. У кожны мой прыезд Марыя Дзмітраўна надта ж хораша мяне даглядала. Гаварыла заўсёды па-беларуску. Яшчэ да рэвалюцыі, кажуць, зойдзе ў краму і пачне што-небудзь пытацца. А прадаўцы: «Як гэтай маладзіцы пасуе беларуская мова!» І дзяцей навучыла любові да роднага, да людзей. Сыны (усе тры — Даніла, Юрка, Міхась) былі выхаваныя хлопцы. Паважалі старэйшых».

Для нас, музейцаў, Алена Міхайлаўна была жывой гісторыяй, неацэннай падмогай у прапагандысцкай дзейнасці. Успаміны сястры вялікага паэта спрыялі даследчыкам роднай літаратуры ў вытлумачэнні шмат якіх момантаў з жыцця і творчасці Якуба Коласа. Згадаем, напрыклад, каментарый да «Сымона-музыкі», пададзены ў 12-томным Зборы твораў народнага песняра. Гэта яна, Алена Міхайлаўна, «рассакрэціла» факты, што ляжаць у аснове паэмы. Якуб Колас, аказваецца, чуў у Альбуці ад старога жабрака такую гісторыю:

«Маленькага хлопчыка ўсе ў вёсцы лічылі як бы трохі не ў розуме. Ён іншы раз пытаўся пра такое, што ўсім здавалася дзіўным і незразумелым. Ён вельмі любіў музыку і ўмеў добра іграць. Хлопчык аказаўся дрэнным пастухом, за што не раз даставалася ад бацькі. І толькі адзін селянін з іх вёскі заўжды заступаўся за малога. Аднойчы пасля нейкага здарэння з авечкамі бацька пабіў сына. Пакрыўджаны хлопчык сышоў з дому. Нейкі жабрак (але не той, які расказваў гэту гісторыю Канстанціну Міхайлавічу) падабраў малога. Пазней хлопчык папаў да пана ў замак. Але паны нічым не дапамаглі яму. Пасля таго як ён, пабываўшы ў замку, зноў стаў жабраваць, яго і сустрэў той стары, ад якога Канстанцін Міхайлавіч і пачуў гэту гісторыю. Дзед адмаўляў, што ён жабраваў разам з хлопчыкам. Ён гаварыў, што толькі сустракаўся з малым, калі той жабраваў, і другі раз — пасля замка. Вялічанькі такі, кажа, стаў, змяніўся, што і пазнаць цяжка. Вось у час гэтай другой сустрэчы хлопчык і расказаў дзеду аб свам жыцці».

У Коласавым доме Алену Міхайлаўну любілі і шанавалі. Больш за дваццаць гадоў жыла яна пры музеі. Памерла ў 1980-м. А праз два гады назаўсёды нас пакінуў Міхаіл Іванавіч. Пахаваны абое на радзіме Якуба Коласа, на могілках, дзе вечны супакой знайшлі амаль усе Міцкевічы.

Не завяла яшчэ адна галіна Міхалавага дрэва — Марыя Бруй. Жыве ў вёсцы Мікалаеўшчына. Яна апошняя, трынаццатая ў Міцкевічавай сям'і. Ёй ідзе 93-ці год.

**Іван КУРБЕКА,**
**загадчык аддзела Літаратурнага музея Якуба Коласа.**

**НА ЗДЫМКУ: Алена ЛОЙКА з мужам Міхаілам (здымак зроблены ў 1973 годзе).**

---

Уладзімір СЛАБОДЧЫКАЎ І ЯГОНЫЯ ПРАЦЫ

# ПА КІМ ПЛАЧА "АНЁЛ З АБПАЛЕНЫМІ КРЫЛАМІ"?

Калі цяперашні загадчык кафедры скульптуры Акадэміі мастацтваў вучыўся ў той жа ўстанове на 3-м курсе, ён выляпіў «Дон Кіхота». Герой Сэрвантэса ў выкананні Уладзіміра Слабодчыкава быў такі добры і такі мілы. Скульптар паставіўся да свайго героя жартаўліва. Але ўсмешка аўтара не перашкаджае задумацца пра вечнага летуценніка. Гэту работу купіла ў Слабодчыкава Траццякоўская галерэя. Пазней яна набыла і іншыя ягоныя працы: «Зімовыя поцемкі», «Жанчына, якая нясе рэзгіны», «Вялікдзень».

Пасля «Дон Кіхота» прайшло 20 гадоў, і ў скульптара Уладзіміра Слабодчыкава з'явіліся новыя героі. Мабыць змяніўся і сам мастак. Большасць вобразаў, якія ён стварае сёння, — трагічныя. Ад скульптуры «Роздум мастака» застаецца адчуванне, што мастак не проста думае, ён чакае знака з неба. Ён, слабы і бездапаможны, залежыць ад вышэйшай сілы і прагне натхнення, без якога ён бяссільны.

Працы Уладзіміра Слабодчыкава прасякнуты глыбокім песімізмам. Ён ідзе ад жыцця, вядома. Помніцца, тэарэтык усяленскага песімізму А. Шапенгаўэр пацвярджаў сваё стаўленне да чалавечага існавання спасылкай на пекла Дантэ. Адкуль, калі не з жыцця людзей мог узяць пісьменнік карціны пекла? Сапраўды, падгледзець у нашых буднях іх няцяжка. А Уладзімір Слабодчыкаў так кажа пра сваё стаўленне да жыцця:

— Чым больш мы жывём, тым менш смяёмся. Знікае ўсмешка, з'яўляецца больш роздуму. Само нашае жыццё дае мала падстаў для аптымізму. Па сутнасці сваёй мы людзі грахоўныя. Мы народжаны быць грэшнікамі. І, вядома, калі мастак паглыбляецца ў вобразы жыцця, ён бачыць ягоную трагічную сутнасць і гэта не можа не адлюстравацца ў працах. Часам я думаю: можа дарма я так драматызую жыццё? Аднак я не магу іначай. Вось, напрыклад, мая серыя «Жыціе». Яна не магла адбыцца іншай, бо я рабіў тое, што бачыў у дзяцінстве ў сваёй вёсцы Даўгінава. Я добра памятаю тыповую беларускую карціну — чамусьці абавязкова восень, дробны дожджык. Ва ўсім, нават у паветры, разліты сум. А бабулькі ў доўгіх хустках ідуць да царквы. Яны ўсе ў чорным. А рукі і твар здаюцца жоўтымі.

Гледзячы на працы У. Слабодчыкава з серыі «Жыціе», уяўляеш вёску. У. Слабодчыкаў паказвае яе ў розных праявах. Тут і «Мадонна», і «Благавешчанне», і «Вербніца», і «Дзяды», і «З'яўленне». Вёска шмат вызначыла і ў жыцці, і ў творчасці скульптара. Многія вобразы яго нараджаюцца ў Даўгінаве, ён там часта працуе. Пластычнае выкананне ягоных твораў — гэта сама ўмоўнасць у лепшай сваёй якасці. Ён не імкнецца перадаць дакладна форму. Ён яе спрошчвае да мінімуму. Сам кажа: «Часта за атрыбутыкай, за знешняй мішурой можна згубіць нешта стрыжнёвае, што можна знайсці ў пластыцы. Я хачу адкінуць дэталі і пакінуць асноўнае. Трэба ляпіць сам стрыжань вобраза». Мастацтва заўсёды шукала новае ў форме выяўлення. Уладзімір Слабодчыкаў робіць тое ж. Ён кажа, што любы скульптар можа выляпіць і вуха, і нос. Але тыя, хто ўдасканаліў сябе толькі ў гэтым, зараз не ведаюць, чым займацца: няма заказаў, каб паказаць свае навыкі. Калі ж чалавек працуе і думае, у яго нараджаецца свой свет, свая вобразнасць. Калі Слабодчыкаў рабіў, напрыклад, партрэт жонкі (у яго майстэрні я бачыла бюст высакароднай прыгожай жанчыны), то яна яму нават не пазіравала. Мастак перадае ўражанне, пачуцці, выкліканыя чалавекам, а не імкнецца да перадачы знешняга падабенства. Шмат ідэй Слабодчыкава выражаюцца праз жаночы вобраз, таму што чалавечыя заганы і ўзнёсласці больш ярка праяўляюцца менавіта ў жанчыне, бо яна згустак эмоцый. Жанчына яго такая ж розная, як само жыццё. Яе выява можа быць выканана ў мяккіх акруглых формах (дзіўна: мяккасць — і граніт, мармур), як у скульптурах «Вечар» ці «Раніца». Жанчына і праца — адна з тэм Слабодчыкава. У яго няма, вядома, пампезных фігур працаўніц, шчаслівых, што кладуць асфальт пад чулым кіраўніцтвам мужчын. У яго жанчына расчэсвае валасы, нясе хлеб. «Мацярынства-2" — скульптура з граніту. Мацярынства для Слабодчыкава, як мне здалося, — хутчэй страх, чым радасць. Бог мой, як гэта знаёма нашым жанчынам! Страх перад тым, як нарадзіць, і пасля таго, як народзіш дзіця, бо не ведаеш жа нічога з сваёй будучыні. А пакуль Слабодчыкаў стварае вобраз бесклапотнага дзіцяткі. Яно такое цудоўнае, у яго новая цацка («Новая цацка»).

І зноў жанчына. Яна нясе рэзгіны, снапы ("Тая, што нясе рэзгіны", «Снапы»). Тут не да прыгажосці, тут данесьці б. І пры гэтым такая пакорлівасць. Яна ж добра ведае, што так будзе заўжды. Гэта лёс. Нават, калі яна ніколі не чула такіх слоў, яна нясе і будзе несці рэзгіны. Сёння і ўсё жыццё.





**НА ЗДЫМКАХ: работы Уладзіміра СЛАБОДЧЫКАВА.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# ПРАГРЭС — У ВЯРТАННІ НАЗАД

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Дык што ж за стварэнне такое — «Беларуская Капэла»? Яе нельга назваць суполкай музыкантаў у звыклым разуменні. Хутчэй гэта цэнтр па каардынацыі намаганняў ды творчых намераў нашых энтузіястаў-музыкаў. Энтузіястаў музычнага Адраджэння, аднаўлення еўрапейскага радаводу культуры земляў беларускіх.

«200 гадоў таму на тэрыторыі сучаснай Беларусі існавала развітая прафесійная музычная інфраструктура, — удакладняе В.Скорабагатаў. — Мала каму сёння вядомы ў свеце Слонім, напрыклад, лічыўся ў XVIII стагоддзі другім пасля Мангейма цэнтрам еўрапейскай культуры, а Мангейм жа быў сапраўдным асяродкам тагачаснай мастацкай эліты! Усяго праз два месяцы пасля прэм'еры араторыі Гайдна «Стварэнне свету» адбылася яе прэм'ера і ў Слоніме. Прычына не толькі ў тым, што гаспадар мястэчка гетман Агінскі любіў музычныя еўрапейскія навінкі, але і ў тым, што менавіта ён падказаў сюжэт араторыі свайму сябру — вялікаму аўстрыйскаму кампазітару. Гэта толькі адзін з фактаў, якія пацвярджаюць слушнасць выказвання Джузепе Вердзі: «Трэба вярнуцца назад — гэта будзе прагрэсам».

Такім чынам, «Беларуская Капэла» мае на мэце аднавіць (праз канцэртныя праграмы сваіх штогадовых фестываляў) і колішнюю музычную атмасферу Беларусі, і самі прынцыпы функцыяніравання капэлы як мастацкай структуры. Гэта значыць, яна не павінна падмяняць сабою працу філармоніі або опернага тэатра.

Аснова капэлы — архіў, які назапашвае ноты, займаецца вывучэннем музычнай спадчыны, рэдагуе і выдае творы, ладзіць выстаўкі набыткаў. А што датычыць уласна канцэртна-фестывальнай дзейнасці — яна будзе развівацца ў пэўных напрамках.

Скажам, самы першы фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы» меў на мэце паказ нашай музычнай спадчыны XVI—XVIII стагоддзяў — таго, што ствралася ў прыдворных оперна-балетных тэатрах ды сімфанічных капэлах, у шляхецкіх салонах ды ў культавым асяроддзі. Другі фестываль, які адбыўся летась увосень, стаўся своеасаблівым люстэркам музычнай атмасферы на беларускіх землях у мінулыя стагоддзі. У яго канцэртных праграмах была і прэм'ера той самай араторыі Гайдна «Стварэнне свету», якая 200 гадоў таму ўразіла гасцей слонімскага двара; і філарманічнае выкананне амаль забытай камічнай оперы Дж.Паізіелы «Уяўная каханка», якую некалі іграла ў Магілёве італьянская оперная трупа з Санкт-Пецярбурга ў сувязі з візітам у наш край імператрыцы Кацярыны II. Быў асветніцкі канцэрт «Шляхамі гітарыста Марка Сакалоўскага», зладжаны па ініцыятыве вядомага музыканта, першага і пакуль адзінага даследчыка бытавання гітары на беларускіх землях, — Валерыя Жывалеўскага. Госці фестывалю — польскі ансамбль «Il concerto polacco» прадставілі творы, якія належаць адначасова і польскай, і беларускай нацыянальнай культуры: быў жа час, калі абодва народы жылі ў адзінай дзяржаве, мелі агульную гісторыю, набылі багатую духоўную спадчыну, падзяліць якую проста немагчыма.

Апафеозам другога фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы» стаўся «Балетны дывертысмент» у 2-х дзеях на музыку Я.Д. Голанда, М. Радзівіла, Э. Ванжуры, В. Казлоўскага. Першая дзея ўяўляла сабою пастаноўку ў стылі балетаў XVIII стагоддзя, у другой разгарнулася прадстаўленне ў духу унікальнага па сваёй прыродзе ды эстэтыцы аматарскага тэатра Уршулі Радзівіл (Нясвіж, 50-я гады XVIII стагоддзя). Дасціпнае і вытанчанае дзейства «Тэагонія» паводле Гесіёда было пастаўлена па сцэнарыю дырэктара «Беларускай Капэлы» Яўгена Паплаўскага з удзелам акцёраў-дэкламатараў, саліста-спевака, ансамбля «Класік-Авангард» пад кіраўніцтвам У. Байдава, выхаванцаў Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча. Публіку ўзрушыла маляўнічае відовішча: вытанчаныя, быццам фарфоравыя статуэткі, постаці юных танцораў, адмысловыя музыканты, якія ўпершыню выйшлі на сцэну ў святочных сурдутах, парыках, — мабыць, гэтак апраналіся іх далёкія папярэднікі ў прыдворных капэлах...

Другі фэст «Беларускай Капэлы» меў статус міжнароднага: у ім удзельнічалі, поруч з гаспадарамі, і выканаўцы з Пецярбурга, Варшавы. Трэці міжнародны фестываль (ён прымеркаваны зноў на восень) будзе мець яшчэ шырэйшы розгалас за мяжой, бо запрошаны на яго музыканты з Германіі, Польшчы, Швейцарыі, ЗША, Ізраіля, іншых краін. Яго канцэртныя праграмы пазнаёмяць з разнастайнымі авангарднымі кірункамі ў сучаснай кампазітарскай творчасці.

Чаму раптам такая трансфармацыя дзейнасці «Беларускай Капэлы»? А ўсё заканамерна! Адна з задач творчага аб'яднання — ажыццяўляць функцыю сваіх далёкіх музычных продкаў: сёння пішацца — заўтра выконваецца. Вядома ж, што ў прыдворных капэлах працавалі «модныя» кампазітары і створанае імі лічылася ў свой час самым найноўшым словам у музыцы. Запрашаючы шматлікіх гасцей на чарговы фестываль, «Беларуская Капэла» дае магчымасць паказацца і нашым кампазітарскім сілам. Па яе заказу (а гэта значыць, з разлікам у першую чаргу на майстэрства ансамбля «Класік-Авангард», які ўваходзіць у структуру капэлы, саліста-спевака В. Скорабагатава, гітарыста В. Жывалеўскага, іншых музыкаў, улучаных у справу адраджэння) пішуць арыгінальныя творы Віктар Капыцька, Аляксандр Літвіноўскі, Яўген Паплаўскі ды інш.

Гэта не так і далёка, ды ўсё ж у будучыні. А ў недалёкім мінулым — яшчэ адзін цікавы фестываль: сакавіцкія «Беларуска-польскія музычныя сустрэчы», калі па ініцыятыве капэлы былі наладжаны канцэрты вядомых калектываў з Польшчы «Ars nova» ды «Collegium vocale», якія суседнічалі з выступленнямі нашага «Класік-Авангарда», і літаральна на адным дыханні сустрэчы прадоўжыліся ў залах Варшавы і Гданьска, дзе выступіў знаны беларускі ансамбль, а таксама салісты В. Скорабагатаў ды В. Жывалеўскі.

Летам музыканты капэлы таксама пабывалі ў Польшчы — як удзельнікі традыцыйнага Міжнароднага манюшкаўскага фестывалю ў мястэчку Кудова-Здруй. Запрасіла іх старшыня Таварыства сяброў Станіслава Манюшкі, дырэктар фестывалю, знаная спявачка Марыя Фолтын. І была ў захапленні, бо менавіта дзякуючы беларускім гасцям, Польшча пачула шэраг амаль забытых твораў свайго шаноўнага класіка, радзімай якога і творчым вытокам была, як вядома, Беларусь.

Канцэрты, фестывалі, запісы на радыё — плён дзейнасці маладой «Беларускай Капэлы» відавочны для слухачоў. А ёсць, зразумела, чарнавая будзённая праца, без якой не народзяцца чарадзейныя гукі музыкі, што нялёгкім шляхам вяртаецца на сваю духоўную радзіму. Пад эгідай капэлы падрыхтаваны і чакае выдання прыгожа афармлены змястоўны зборнік беларускай гітарнай музыкі, укладзены В. Жывалеўскім. Яўген Паплаўскі, папрацаваўшы ў Лонданскай бібліятэцы імя Ф. Скарыны, прывёз багата нотнага матэрыялу, які дазваляе ў бліжэйшы ж час наладзіць канцэрт з твораў М. Шчаглова-Куліковіча ды М. Равенскага. Хутчэй за ўсё гэта будзе арыгінальная музычная вечарына «Каляды ў "Беларускай Капэле"».

Вядомая даследчыца В. Дадзіёмава, без чыёй апантанай пошукавай працы не спраўдзіліся б і творчыя праекты капэлы, удзельнічае ў навуковай суполцы, якая пад эгідай Беларускага інстытута праблем культуры распачала серыю выданняў «Помнікі музычнай культуры Беларусі». У справе музычнага адраджэння пераплятаюцца намаганні многіх энтузіястаў...

«Беларуская Капэла» існуе ў Мінску. Але яе стваральнікі мараць пра той час, калі адродзяцца капэлы ў месцах іх гістарычнага існавання: у Слоніме ды Шклове, Нясвіжы ды Слуцку... Праўда, прыклад стварэння або ўзнаўлення Гарадзенскай гарадской капэлы сведчыць пра тое, што многае можна ажыццявіць і ў наш неспрыяльны для культуры час. Капэла ў Гародні, якую ўзначальвае вядомы кампазітар Андрэй Бандарэнка, — унікальны на сённяшні дзень прыклад творчага сімбіёзу «пад адным дахам» хору ды камернага сімфанічнага аркестра. Прыкладна так і было калісь пры двары вядомага гарадзенскага феадала і шчырага мецэната Антонія Тызенгаўза...

В. Скорабагатаў аднойчы заўважыў: «Калі ўявіць культурную карту Еўропы як табліцу Мендзялеева, дык можна сказаць, што адна з яе клетачак яшчэ не запоўнена. І ў запаўненні яе аб'ектыўна зацікаўлены ўсе народы Еўропы, бо без гэтага запаўнення на квяцістым кіліме музычнага мастацтва кантынента застанецца прагал». Вось і шчыруюць руплівцы «Беларускай Капэлы» разам са сваімі аднадумцамі, вывучаючы гісторыю музычнай культуры роднага краю, аднаўляючы страчанае, адраджаючы колішні еўрапейскі ўзровень, развіваючы традыцыі, гледзячы наперад.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ.**

**НА ЗДЫМКАХ: спявае Віктар СКОРАБАГАТАЎ; "Балетны дывертысмент".**

**Фота У. ВІТЧАНКІ і М. ШМЕРЛІНГА.**





## НАШ КАЛЯНДАР



# МУЗЫКА — ЯГО ЖЫЦЦЁ

*Анатолю БАГАТЫРОВУ — 80 ГАДОЎ*

Анатоль Багатыроў увайшоў у музыку ў далёкія 30-я адразу і асляпляльна. Яго вакальна-сімфанічная паэма «Казка пра мядзведзіцу», напісаная ў студэнцкія гады па матывах пушкінскіх твораў, і сёння ўпрыгожвае рэпертуар многіх харавых калектываў. Выкананне яе для дваццацічатырохгадовага выпускніка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі стала абаронай дыплома і першай сур'ёзнай сустрэчай са слухачамі.

Колькі іх было потым за доўгае і яркае жыццё ў мастацтве!

А сваю першую Дзяржпрэмію Анатоль Васільевіч атрымаў у 28 гадоў (!) пасля паказу ў Маскве ў дні правядзення Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва оперы ў «У пушчах Палесся», напісанай маладым кампазітарам па аповесці Я. Коласа «Дрыгва». Твор гэты вытрымаў выпрабаванне часам. У 1980 годзе быў ажыццёўлены запіс на беларускім радыё другой рэдакцыі гэтай оперы.

Багатыроў стварыў такія музычныя творы, як кантаты ваенных гадоў «Ленінградцы» і «Беларускім партызанам», опера «Надзея Дурава» і іншыя.

Роздумам аб жыцці назваў сваё захапленне жанрам рамanса сам кампазітар. У вакальных цыклах на вершы Шэкспіра, Лермантава, Пушкіна, Купалы, Багдановіча, Ахматавай, Броўкі і Куляшова выказана шмат запаветнага, асабістага, перажытага. Эмацыянальнасць, глыбокі псіхалагізм вакальнай музыкі кампазітара прыцягнулі ўвагу выдатных спевакоў А. Пірагова, Б. Гмыры, М. Біешу, С. Данілюк.

Амаль пяцьдзесят гадоў побач з творчай дзейнасцю Анатоль Васільевіч вядзе педагагічную работу. Доўгія гады ён быў рэктарам Белдзяржкансерваторыі, загадчыкам кафедры кампазіцыі. Вядомыя кампазітары Я. Глебаў і Ю. Семяняка, І. Лучанок і Г. Вагнер, Д. Смольскі і С. Картэс, Л. Захлеўны і І. Кузняцоў прайшлі школу А. Багатырова.

У жніўні Анатолю Багатырову споўнілася 80 гадоў. З юбілеем патрыярха музычнага алімпа рэспублікі цёпла павіншавалі блізкія і родныя кампазітару людзі.

**Здымак з фотатэкі Белінфарма.**

# ПА КІМ ПЛАЧА "АНЁЛ З АБПАЛЕНЫМІ КРЫЛАМІ"?

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

Працы Слабодчыкава можна пазнаць па светаадчуванню, па філасофіі аўтара хутчэй, чым па пластычнаму выкананню. Пасля акруглых формаў ён звяртаецца да тонкіх, строгіх сілуэтаў. Многае ў ягоных працах вырашае матэрыял. Нізка «Жыцце» (яна выканана з бронзы ў тэхніцы, пра якую я казала вышэй) уражвае сваёй непрэтэнцыёзнасцю і ў той жа час глыбокім сэнсам. Гледзячы на гэтыя працы, думаеш пра лёс жанчыны, як пра лёс Беларусі. І гэтая аналогія не штучная: наўрад ці можна было паказаць яго лепей праз іншы характар. Убачыць прыгажосць і паказаць духоўнае багацце простых жанчын-сялянак людзям — адно з прызначэнняў мастака, лічыць Слабодчыкаў. У іх можна ўбачыць усю філасофію жыцця. Серыя «Анёлы» прысвечана нашай Беларусі, якая наўрад ці зможа лятаць так, як раней, бо мы нясём свой крыж. А яго не здымеш. Сярод прац гэтага цыкла — «Анёл са звязанымі крыламі» (вы толькі ўявіце сабе, што будзе з людзьмі на зямлі, калі анёл, які павінен яе ахоўваць, нават не лятае). «Анёл з абпаленымі крыламі» закрывае вочы рукамі. Ён, напэўна, плача. Ці то па нас, ці то ад сваёй бездапаможнасці. «Чорная быль» — гэта матэрыялізаваны боль, гэта душа, разарваная на шматкі.

Слабодчыкаў удзячны лёсу за тое, што працуе ў Акадэміі мастацтваў і яму ў адрозненне ад многіх іншых не трэба зарабляць грошы, робячы рэльефы на магілах. Але праца ў Акадэміі мае свае цяжкасці:

— Часта бывае: шукаеш нешта ў пластыцы сам гадамі і не знаходзіш. А студэнтам прыходзіцца выдаваць як гатовае.

Канешне, больш за ўсё яго засмучвае не гэта. Ля касцёла святога Роха ў Мінску стаіць ягоны «Хлопчык з матыльком». Калі я ўбачыла гэтую скульптуру, мяне яна здзівіла: хлопчык пільна ўглядваецца ў сваю руку. Аказалася, што на ёй быў матылёк. А яго адламалі. З другой скульптурай Слабодчыкава здарылася больш страшнае. Аднойчы мастак звярнуў увагу на фотаздымак у газеце, а на ім — ступні ад знаёмай скульптуры. Кампазіцыя складалася з фігур дзяўчыны і хлопца. Высветлілася, што ступні — усё, што засталося ад працы У. Слабодчыкава. Рабіў ён яе ў 1986-м годзе. Яна была даволі вялікая — два з паловай метры. Стаяла ў дзіцячым парку каля вуліц Глебкі і Жудро. Цяжка ўявіць сабе, што павінен адчуваць мастак, калі так абражаюць ягоную працу. У. Слабодчыкаў гаворыць:

— У мяне застаўся толькі здымак гэтай скульптуры. Я думаў: карціна можа згарэць, фарбы — паблякнуць. Але што здарыцца са скульптурай? Аказваецца, можа. Дарэчы, у горадзе ўжо ўкрадзена каля 15 скульптур. Мэта злодзеяў зразумелая: скульптуру з бронзы прадаюць як выраб з каляровага металу.

Да ўлад я не звяртаюся. Лічу гэта бессэнсоўным. Няма закона аб аўтарскіх правах. Таму не знойдзеш канцоў.

— Калі па Беларусі стаялі помнікі-калосы з выявай салдат у ботах — іх не чапалі, бо іх з месца не скранеш. Ды яшчэ таму, што не было тады ажыятажу вакол каляровых металаў. Жахліва ад думкі, што будзе з аблічам краіны, калі скульптуру будуць знішчаць далей.

Адна з апошніх прац Слабодчыкава — «Закіданая камянямі». Хто гэта? Жанчына з мінулага? Наша сучасніца? А, можа, сама Беларусь? Кожны бачыць сваё. Толькі агульнае, мабыць, адно: жаданне даведацца — хто кідае ў яе камяні? І спыніць яго.

**Алена СПАСЮК.**

*ЗАПІСКІ ФОТАПАЛЯЎНІЧАГА*

# ПАГАВАРЫЛІ

Сёння спецыяльна затрымаўся на возеры дапазна. Лес даўно запоўніла цемра, і толькі на небе цьмянае ззянне. Ніяк не жадае яно развітвацца з дзённым святлом, аддае яго марудна і неахвотна.

Як добра ў такія хвіліны на чоўне. Плыву амаль бязгучна. Толькі лёгкае бульканне вады пад вяслом за бартамі, і больш — ні гуку.

Але — што гэта? Ціха... Вёслы ў паветры. Ператвараюся ў слых. «У-уу. У-уу», — чуецца прыглушанае, нібы з-пад зямлі. Пасля бліжэй і гучней: «Ух, ух, ух!»

Так. Значыць, недзе блізка сава. Сама ўладарка начнога птушынага свету азвалася. Паведаміла, што вылятае на паляванне. Гэта сігнал магчымым супернікам, каб на тэрыторыі яе паляўнічага ўчастка цяпер не з'яўляліся. А я пра іншае падумаў: якім жудасным рэхам адбіўся гэты ціхі покліч у сэрцах тых істот, на якіх палюе драпежніца. Пачулі яго і адразу сцішыліся, пазашываліся ў бліжэйшыя схованкі, далей ад бяды. Толькі сава не выпадкова пакрыквае: інстынкт у яе добры. Страх, які наганяюць тыя гукі на мышэй, на дробнае птаства не столькі робіць іх больш асцярожнымі, колькі скоўвае рухі, зніжае рэакцыю. Якраз у такім стане іх лепш за ўсё лавіць. Хаваюцца ж яны ненадоўга. Голад не цётка, ён хутка змусіць драбязу павылазіць зноў, забегаць па лесе ў пошуках корму.

Вырашаю паназіраць, як будзе весці сябе сава, калі падражніць яе, пагукаць яе голасам (далібог, умею гэта рабіць з дзяцінства, бо вырас, лічы, у лесе). Складваю далоні, падношу да вуснаў і... «у-уу». Паўтараю то цішэй, то гучней, то сярдзіта ўжо.

Доўга чакаць з адказам лясной гаспадыні не давялося. Зусім блізка, за высокімі хвоямі, што стаяць на самым беразе, пачулася рэзкае і гучнае: «Ку-га, ку-га, ку-га!» Пасля яшчэ бліжэй, пасля збоку. Значыць, зачапіў я драпежніцу, як кажуць, за жывое. Пачула саперніка, злосна запратэставала, абараняючы сваю тэрыторыю.

Ухаю яшчэ і яшчэ, ды так, быццам робіць гэта сярдзітая птушка. Трэба ж неяк выклікаць мясцовую саву на больш змястоўную гутарку. Дый паглядзець на яе было б няблага.

Звонкае і кароткае кугаканне на гэты раз данеслася знізу, дзе суцэльная цемра густога падлеску. Я ж маўчу. Хай пазлуецца, пашукае саперніцу, можа хутчэй мне на вочы патрапіць.

Хвіліны цягнуцца марудна. Ужо і камар ля вуха зазвінеў, балюча ўпіўся ў скуру. Пракляты! Выкарыстаў момант, калі я і варухнуцца не магу, бо сава, напэўна, уселася недзе паблізу ў змроку галін і ўважліва аглядае наваколле. Шукае чужаніцу, што асмелілася ўварвацца ў яе ўладанні. Човен, мяне на ім сава, натуральна, заўважыла даўно. Гэта ж новыя прадметы на вадзе каля яе лесу. Але я не рухаюся, таму небяспекі ад мяне яна не чакае. Можа, так проста, на ўсялякі выпадак аглядае.

На фоне адносна светлага яшчэ неба высока ўзнялася крона таўшчэзнай хвоі. Ніжэй кроны вымалёўваецца сухі доўгі сук. Ён чамусьці прыцягвае ўвагу. Магчыма, сава сядзе якраз на яго. Вельмі ж зручны, каб аглядаць наваколле. Такія назіральныя пункты птушкі любяць і досыць часта карыстаюцца імі. Таму я часта пазіраю туды, не забываючыся ўважліва сачыць за прыбярэжнай часткаю лесу.

Сава сапраўды ўзнагародзіла маё чаканне. Шэрым ценем, без гуку і шолаху мільганула яна над самай лодкаю і села акурат на той самы сучок. Нават кара не зашамацела, нават кіпцюры аб дрэва не шкрэбнулі.

Цяпер я выдатна бачу сілуэт драпежніцы. На фоне ледзь святлеючага неба відаць нават пушыстыя «вушы» — пучкі пер'яў на яе галаве.

Я ціха ўхнуў. Сава закруціла галавою. Асцярожна ўхаю яшчэ раз. Сава пераступае лапкамі на галіне, схіляецца наперад, быццам узляцець хоча, а пасля раптам як заверашчыць: «Ку-га, ку-га, ку-га!» і нырае з галіны ўніз. Здаецца, зараз урэжацца ў пясок пляжа і разаб'ецца. Але распрамляюцца шырокія крылы і выносяць птушку на пляжны грыбок. Гэта ўжо зусім блізка. Крокаў пяць ад вады і ад маёй лодкі, што стаіць нерухома, уткнуўшыся носам у белы пясок.



Я і маргаць вачыма перастаў. Хай сабе відаць тут птушку горш, чым на фоне шэрага неба, затое яна так блізка. Бач, нават падкрадвацца да яе не спатрэбілася. Сама прыляцела. Але і на гэтым не скончылася наша спатканне. Сава завухкала, перамешваючы гэтыя ціхія гукі з пранізлівым куганнем, недачакалася майго адказу і — вось дык дзіва! — заляцела прама на нос маёй лодкі. Тут, нягледзячы на змрок, я змог добра такі яе разглядзець. І вочы ўбачыў лупатыя, якія часта маргалі, узіраючыся ў чалавека. Птушка хвалюецца, крылы крыху прыўзняты, пер'е на шыі так і трасецца. З дзюбы яе ці то бульканне, ці то клёкат ціхі вырываецца, перамешваецца з шыпеннем. Мне аж нядобра стала: а раптам кінецца ў твар. Кіпцюры ж у яе — вой якія вострыя і доўгія. Цяпер я нават і не дыхаю.

«Ха-ха-ха-ха!», — амаль у твар мне рагоча сава. Асмейвае, мусіць, мяне: маўляў, раскрыла падман. А мо і не асмейвае, бо не ўцякае ж. Сядзіць сабе, узіраецца, ледзь чутна ўхкае.

Што было б далей, прадказаць цяжка, бо гутарку нашу груба перапынілі. Злева пачуўся шоргат пяску, чалавечыя крокі. Сава, вядома, не стала чакаць, каб даведацца, хто там ідзе. Шуснула хуценька ў гушчар, а да мяне падышоў незнаёмы хлапчына, з дзіцячай цікаўнасцю спытаўся:

— Нашто, дзязька, вы савою гукаеце?

— Ды вось пагутарыў з мясцовую, вушастаю, — адказваю. Хоць, шчыра кажучы, не да размоў было: такое спатканне абарваў.

Малы здзіўлена перасмыкнуў плячыма, недаверліва хмыкнуў, падаўся дахаты.

**Васіль ЖУШМА.**

**НА ЗДЫМКУ:** вушастая сава.

**Фота аўтара.**

## ДА СЯМ'І НЯБОЖЧЫКА Савелія БАРЫСЕНКІ

**Наша таварыства смуткуе з выпадку страты вельмі блізкага і дарагога нам сябра. Савелій быў надзвычай добры чалавек, які вельмі любіў сваю сям'ю.**

**Мне, як старшыні таварыства і быломy мэру горада Кардзіфа, ён многа дапамагаў як перакладчык, калі прыязджалі да нас госці з былога Савецкага Саюза, уключаючы паслоў, людзей мастацтва і проста турыстаў. Асабліва памятная сустрэча была з Валянцінай Церашковай.**

**Савелій быў сапраўдным «інтэрнацыяналістам», з пачуццём увагі і клопату да ўсіх нацый. Нягледзячы на тое, што ён вельмі любіў Уэльс, краіну, у якой жыў, кожны дзень думкі яго былі з яго сям'ёй і сябрамі ў Мінску, месцы, дзе ён нарадзіўся.**

**Нам будзе вельмі не хапаць яго мудрасці, парады і дапамогі.**

**Выказваючы нашы шчырыя спачуванні ўсёй сям'і Савелія Барысенкі, мы, жыхары Уэльса, кажам і сваё апошняе «бывай» сапраўднаму сябру і сапраўднаму сыну Беларусі.**

**Са спачуваннямі**

**Альберт ХВІШ,**
**старшыня таварыства «Дружба» ва Уэльсе,**

Вялікабрытанія.

**АД РЭДАКЦЫІ: Мы далучаемся да сяброў Савелія Барысенкі, што даслалі з Кардзіфа гэтую сумную вестку, у іх скрусе і выказваем таксама нашы глыбокія спачуванні яго жонцы Дорыс, дзецям, родным і блізкім у Англіі і Беларусі.**

**Больш за чвэрць стагоддзя Савелій Барысенка быў сталым чытачом «Голасу Радзімы». Прыязджаючы ў Мінск, ён ніколі не абмінаў нашай рэдакцыі. Гутаркі з гэтым разумным і мілым чалавекам заўсёды пакідалі глыбокае перакананне, што даражэйшай за ўсё на свеце была яму беларуская зямля.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1208. Падпісана да друку 23. 08.1993 г.